15 лістапада 2019 | № 42 (653)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Бунт у прэрыях**
Стар. 8

**4 ДОЛАРЫ ЯК ФАКТАР БЕЛАРУСКАЙ СТАБІЛЬНАСЦІ**



Словы «сіла» і «стабільнасць» не з'яўляюцца сінонімамі. Стабільнасць могілак сілы жывым не дадае

**5 «РЭВАЛЮЦЫІ НЕ РОБЯЦЦА КЛІКАМ КЛАВІЯТУРЫ»**

З доктарам філасофскіх навук і палітолагам Паўлам Усавым мы гутарым пра найбольш хвалюючыя і вострыя тэмы, якія цікавяць грамадзян, заангажаваных у палітыку

**6–7 «ДЭПУТАТ МУСІЦЬ ВЫЙСЦІ НА ПЛОШЧУ РАЗАМ З НАРОДАМ»**

Чытачы «Новага Часу» ведаюць Алену Церашкову як сквічна-тваравага хірурга і аўтарку тэматычных нататак. А цяпер яна — яшчэ і кандыдатка ў дэпутаты



**11 САВЕЦКІ ШПІЯНАЖ НА «МЯЖЫ ЦЫВІЛІЗАЦЫЙ»**

У даваенны час на тэрыторыі Заходняй Беларусі актыўна дзейнічалі савецкія выведнікі і дыверсанты. Яны стваралі шпіёнскія сеткі, вербавалі агентаў, збіралі інфармацыю...

# Маўчаць! Не крычаць, не спяваць!

**«Галоснасць» знішчыла СССР. Беларускія ўлады імкнуцца не дапусціць такой памылкі**



Сяргей ПУЛЬША

Электаральная кампанія падышла да фіналу. Але ў яе было некалькі адметнасцяў, вартых увагі.

Гэта тычыцца тых, хто заўжды заяўляў пра няўдзел у «выбарчым фарсе», але цяпер паглыбіўся ў кампанію. Як, напрыклад, «Еўрапейская Беларусь». У тым, што яны ўсё ж пайшлі ў кампанію, быў адзін вялізны плюс. Практычна ўсе гэтыя, па выразе Лукашэнкі, «адмарожаныя апазіцыянеры» сабралі патрэбную тысячу подпісаў за рэгістрацыю кандыдатамі ў дэпутаты.

Канешне, некаторых найбольш уплывовых з іх (як, напрыклад, Ірыну Халіп) кандыдатамі ў дэпутаты не зарэгістравалі. Дый у далейшым усяляк чынілі перашкоды — здымалі за правядзенне пікетаў «не ў вызначаных месцах» і за розныя «няўзгодненыя лозунгі». У прынцыпе, гэта не паказчык — наша заканадаўства такое, што кандыдата можна зняць з выбараў за што заўгодна.

Аднак сам факт таго, што прадстаўнікі менавіта радыкальнай апазіцыі сабралі неабходныя подпісы ў сваю падтрымку, павінен вельмі насцярожыць улады. Бо гэта азначае, што ва ўлады насамрэч няма такой падтрымкі, якую яна дэкларуе. Людзі гатовыя змяніць яе ўжо нават на «адмарожаных апазіцыянераў», а значыць — вельмі моцна расчараваныя і не задаволеныя дзеяннямі (ці бяздзеяннем) тых, хто прадстаўляе ўладу цяпер.

Другі даволі цікавы факт — гэта паўсюдна ўведзеная цэнзура. Значна пабольшала выступаў кандыдатаў у дэпутаты, знятых з эфіру, і фактаў адмовы ў друку перадвыбарчых праграм. Пры гэтым камісіі спасылаюцца на артыкул 47 Выбарчага кодэксу, які забараняе, сярод іншага, абразу службовых асобаў і заклікі да гвалтоўнага звяржэння ўлады. Але трактуюцца гэтыя палажэнні вельмі і вельмі шырока.

Напрыклад, Вольга Дамаскіна атрымала папярэджанне за фразу «Далоў дыктатуру страха». Дзмітрыя Казлова пазбавілі рэгістрацыі за лозунгі «Калгаснай дыктатуры — баста!» і «Фальшывым выбарам — баста!». Уладзіміру Марозу таксама скасавалі рэгістрацыю за заклік: «Зменім разам карумпаваную ўладу» (адметна, што гэта было расцэнена як «заклік да неканстытуцыйнай змены ўлады»).

Але ці не самае цікавае азначэнне ў папярэджанні Ірыне Давідовіч. Па меркаванні сяброў абласной камісіі, «перадвыбарчы відэаролік кандыдаткі ў дэпутаты пабудаваны на негатыўных меркаваннях і жорсткай крытыцы палітыкі ўладаў».

То-бок, віна Давідовіч у тым, што яна крытыкуе ўладу! Гэта забаронена заканадаўствам?

Варта ўвагі тое, што ў асноўным праявы цэнзуры і ціску назіраліся ў адносінах да кандыдатаў, якія засяроджвалі ўвагу менавіта на мясцовых, але вельмі балючых праблемах. Вышэйзгаданы Уладзімір Мароз быў адзіным зарэгістраваным кандыдатам ад групы праціўнікаў будаўніцтва ў Брэсце завода АКБ — яшчэ тром актывістам групы ў рэгістрацыі адмовілі. Дзмітрый Савіч са Светлагорску не дачакаўся свайго выступу па тэлебачанні, — а ён уздымаў праблему Светлагорскага ЦКК, які смярдзіць на ўсю акругу.




© DW/A. Burakow

**Уладзе, якая прымала непапулярныя рашэнні, няма чым адказаць на крытыку грамадства**

Абласная газета «Гомельская праўда» абурылася тым, што кандыдатка ў дэпутаты і актывістка руху «Маці 328» Таццяна Канеўская намагаецца звярнуць увагу грамадскасці на вялікія тэрміны, якімі караюць непаўнагадовых за спажыванне наркатычных рэчываў. Станіславу Шашко вынеслі папярэджанне за тое, што ён агітаваў за сябе на перадвыбарчым пікеце-мітынгу «Памяці загінулых ад канабісу». Вольгу Беляўцову знялі з выбараў за пікет, які яна не праводзіла.

То-бок, не важна, за што ты выступаеш: за ці супраць наркотыкаў, праводзіў ты агітацыйнае мерапрыемства альбо не, — папярэджанне табе ўсё роўна вынесуць, калі ты — незалежны кандыдат.

Жорсткая цэнзура выступаў і ціск на тых, хто ўздымае найперш рэгіянальныя і «непалітычныя» праблемы, яскрава сведчыць пра тое, што ўладзе, якая прымала непапулярныя рашэнні, няма чым адказаць на крытыку і незадаволенасць насельніцтва. Яна можа толькі заторкнуць рот тым, хто адважыўся выказацца пра праблемы, якія хвалююць людзей.

Але рэч у тым, што праблемы людзей ад гэтага нікуды не знікнуць. У Брэсце праціўнікі АКБ па-ранейшаму будуць выходзіць на «кармленне галубоў», у Светлагорску будуць супраціўляцца ўводу ў эксплуатацыю ЦКК, «Маці 328» таксама працягнуць бараніць сваіх дзяцей. Імкненне «замаўчаць» праблемы і не чуць «жорсткую крытыку палітыкі ўладаў» будзе толькі абураць людзей, што дае падставы да сацыяльнага выбуху.

А наперадзе ва ўлады — яшчэ і прэзідэнцкая кампанія. І ў далейшым народнае абурэнне можа прывесці да вельмі сумных — для ўлады — наступстваў.

# «Мы — не апазіцыя. Мы — пазіцыя!»

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Днямі атрымаў чарговы ліст ад асуджанага Міхаіла Жамчужнага. Ён піша, што ліст з укладзенай старонкай газеты «Новы Час» ад 11 кастрычніка, у якім была нататка пра яго папярэдні допіс, ішоў больш за два тыдні. Але ўсё-ткі дайшоў да адрасата.**

За гэты час з артыкулам «Жамчужны жыве і перамагае» азнаёміліся многія асуджаныя і супрацоўнікі адміністрацыі. У той жа час самому Жамчужнаму было няўцямна, чаму да яго падвысілася ўвага і змянілася стаўленне. Што дзіўна, адміністрацыя разоў пяць «знаходзіла пыл» у камеры, але не абвясціла ніводнага спагнання. Ён працягвае «атрымліваць асалоду» ад знаходжання ў ПКТ (памяшканне камернага тыпу), а не мерзне ў ШІЗА (штрафным ізалятары).

Жамчужны дзякуе за інфармацыю пра суд над Дзмітрыем Паліенкам (праўда, на той момант ён не ведаў, што суд завяршыўся ўмоўным, а не рэальным тэрмінам).

На словы пра яго бескампрамісную пазіцыю ў турэмных умовах зняволены фармулюе свой слоган: «Мы — не апазіцыя. Мы — пазіцыя!» Тым самым ён кажа пра сваю агульную з Дзмітрыем Паліенкам пазіцыю непрызнання віны і адстойвання праўды да канца.

Ён, па магчымасці, назірае за ходам выбараў і захапляецца адвагай беларускіх жанчын, якія вырашылі прыняць удзел у гэтай «вакханаліі». Асабліва яго ўражвае пазіцыя Вольгі Нікалайчык і Ірыны Халіп.

Жамчужны таксама ўклаў у ліст копію адказу начальніка ўпраўлення дэпартамента выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці Талкачова на яго скаргу з нагоды знішчэння паштовай карэспандэнцыі. Яму тлумачыцца, што карэспандэнцыя, якая атрымліваецца і адасланая асуджанымі, падлягае цэнзуры. У прыватнасці, ліст, які прыйшоў у яго адрас ад «Mr. Viachaslav Bortnik», канфіскаваны на падставе пункта 143 ПУР ВУ (Правілаў унутранага распарадку выпраўленчых установаў). Карэспандэнцыя, адрасаваная грамадзянцы Лойка А.Ю., вернутая адміністрацыяй ВК №9 для накіравання ва ўстаноўленым парадку.

Такое жыццё ў няволі. І яно працягваецца.

# Абмеркаванні пракладання кабельных ліній праз ахоўную зону Курапатаў перанеслі

НЧ

**Тэрмін правядзення грамадскага абмеркавання справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе па аб'екце «Будаўніцтва жылога раёна з інжынерна-транспартнай інфраструктурай і аб'ектамі сацыяльна-гарантаванага абслугоўвання насельніцтва ў раёне в. Копішча Мінскага раёна» працягнулі.**

Нагадаем, у вёсцы Копішча Мінскага раёна будуюць жылы раён з інжынерна-транспартнай інфраструктурай і аб'ектамі сацыяльна-гарантаванага абслугоўвання насельніцтва. Сюды плануюць правесці кабельныя лініі электраперадачы напружаннем 10 кВ, якія хочуць пусціць праз ахоўную зону Курапатаў і водаахоўную зону Цнянскага вадасховішча.

Праектам прадугледжваецца пракладка магістральных сетак электразабеспячэння 10кВ і тэлемеханікі, а таксама будаўніцтва размеркавальных трансфарматарных падстанцый. Заказчыкам выступае ТАА «Астодевелопмент».

Праектаваны аб'ект размяшчаецца ў раёне вёскі Копішча Бараўлянскага сельсавета Мінскага раёна. Траса кабельных ліній 10кВ праходзіць ад ПС «Далгінаўская» (г. Мінск) уздоўж усходняга берага Цнянскага вадасховішча, перасякае МКАД, ідзе ўздоўж агароджы існуючай забудовы і далей уздоўж трасы Калодзішчы–Заслаўе, закранаючы межы ахоўнай зоны Курапатаў, ідзе да пляцоўкі будаўніцтва жылога раёна.

«На тэрыторыі Копішча існуе электрычная падстанцыя Маскоўская, ды і ў ваколіцах — падстанцыі Уручча і Зялёны Луг! Чаму вырашана весці з падстанцыі Далгінаўская? На форуме пішуць, што задавалі пытанне прадстаўніку замоўцы пра Маскоўскую, той адказаў, што магутнасці выкарыстаны. У мяне пытанне, чаму нельга рэканструяваць гэтую падстанцыю ці іншыя паблізу, павялічыць іх магутнасць ці збудаваць новую?» — хвалюецца жыхарка Мінска, якая паведаміла «Новаму Часу» аб праблеме.

Цяпер праходзіць грамадскае абмеркаванне па справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе (АУНА). У ёй прадстаўленыя сем альтэрнатыўных варыянтаў пракладкі лініі электраперадач, у тым ліку па-за межамі ахоўнай зоны, водаахоўнай зоны Цны і іншых зялёных зонаў.

На думку грамадзян, якіх хвалюе гэтая тэма, найлепшы варыянт прадстаўлены пад нумарам 7. Але, як пазначана і ў справаздачы, праекты варыянт значна таннейшы — і гэта важней для замоўцы.

Мінчанка перакананая, што справаздачы павінны даць ацэнку і юрысты.

Нягледзячы на тое, што гаспадарчая дзейнасць плануецца на землях Савецкага раёна Мінска і землях Мінскага раёна, грамадскія абмеркаванні праходзяць толькі ў межах Мінскага райвыканкама, а на Савецкі раён абмеркаванне не вынесенае.

Як стала вядома грамадскасці, абмеркаванне праекта ў прысутнасці замоўцы павінна было прайсці 13 лістапада ў будынку Бараўлянскага ДК.

Аднак менавіта 13 лістапада, пасля публікацыі інфармацыі ў СМІ, на сайце Мінрайвыканкама з'явілася паведамленне, што тэрмін правядзення грамадскага абмеркавання справаздачы падоўжаны да 17 снежня 2019 года ў сувязі з узніклымі дадатковымі фактарамі магчымага ўздзеяння на навакольнае асяроддзе пры рэалізацыі праектных рашэнняў.

Таксама паведамляецца, што сустрэча з грамадзянамі перанесеная на 29 лістапада 2019 года на 17.00. Месца правядзення: Мінскі раён, аг. Лясны, 2А (сельскі Дом культуры).



Фота www.sputnik.by

# Ці будзе адкладзены запуск БелАЭС?

НЧ

**Запуск Беларускай АЭС у Астраўцы (БелАЭС) павінен быць адкладзены да таго часу, пакуль Беларусь не правядзе стрэс-тэсты, заявіў старшы саветнік літоўскага прэзідэнта Гітанаса Наўседы Яраслаў Невяровіч.**

«Мы сочым за публічнай прасторай, па ёй бачна, што гэтае рашэнне прывезці паліва, усталяваць яго і запусціць станцыю ўсё адкладаецца. Мы лічым, што гэтыя рашэнні павінны быць цалкам адкладзены да таго часу, пакуль не будуць рэалізаваны ўсе рэкамендацыі стрэс-тэстаў, якія прадставілі эксперты Еўрасаюза Беларусі», — сказаў 12 лістапада радыёстанцыі Ziniu radijas Невяровіч, піша ru.delfi.lt.

Ён адзначае, што Беларусь павінна патурбавацца пра тое, што БелАЭС становіцца ўсё больш расійскім, а не беларускім праектам, і інструментам Расіі ў павышэнні ўплыву.

«Я думаю, што ў гэтай сітуацыі варта адзначыць, што ў інтарэсах самой Беларусі бачыць гэты працэс і не паддавацца яму», — сказаў саветнік.

У 2017 годзе літоўскі парламент прызнаў, што БелАЭС з'яўляецца небяспечнай і стварае пагрозу нацыянальнай бяспецы, навакольнага асяроддзя Літвы і грамадскаму здароўю. Таксама быў прыняты закон, які забараняе закупку электраэнергіі з небяспечных станцый.

Беларусь адкідае прэтэнзіі Літвы аб тым, што будаўніцтва станцыі вядзецца небяспечным спосабам. Мінск сцвярджае, што ядзернае паліва для рэактара станцыі будзе дастаўлена да канца гэтага года, а сама станцыя будзе запушчаная ў студзені 2020 года.

# Хто і чаму галасуе датэрмінова?

Кірыла ІВАНОЎ

**У Беларусі 12 лістапада пачалося датэрміновае галасаванне на парламенцкіх выбарах. Прагаласаваць такім спосабам можна толькі на стацыянарных выбарчых участках да 16 лістапада. Асноўным днём галасавання будзе нядзеля, 17 лістапада.**

Праваабаронцы і незалежныя юрысты называюць датэрміновае галасаванне ў Беларусі адным з самых эфектыўных спосабаў фальсіфікацыі вынікаў выбараў.

Упершыню датэрміновае галасаванне было масава задзейнічанае ўладамі падчас правядзення рэферэндуму 1996-га, што на дзесяцігоддзі змяніў палітычны ландшафт краіны. На той момант закон і пастановы Вярхоўнага Савета прадугледжвалі працэдуру датэрміновага галасавання для тых грамадзян, хто не раней, чым за пятнаццаць дзён да галасавання выязджаў за межы краіны і не мог вярнуцца назад да дня правядзення рэферэндуму. Гэта трэба было пацвярджаць дакументальна.

Насуперак гэтаму, стараннямі ўладаў датэрміновае галасаванне было масавы характар. У нашы дні яно стала штодзённай з'явай, для ўдзелу ў ім не трэба ніякіх дакументаў, што пацвярджаюць такую неабходнасць.

Падчас другой прэзідэнцкай кампаніі ўлады пайшлі на неардынарны крок: на ўвесь верасень студэнтам зрабілі бясплатным праезд на наземным міжгароднім транспарце. У многіх ВНУ іншагародніх студэнтаў матывавалі прагаласаваць датэрмінова, каб скарыстацца выпадкам бясплатна з'ездзіць дадому і дапамагчы родным на ўборцы ўраджаю.

Як адзначаюць праваабаронцы, у першую чаргу падчас датэрміновага галасавання на ўчастки прыходзяць найбольш схільныя да адміністрацыйнага ціску катэгорыі грамадзян.

У 2015-м напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў «Нямецкая хваля» паведамляла пра тое, як і хто ў Беларусі галасуе датэрмінова. У інтэрв'ю праваабаронцы казалі пра «мяккі прымус» студэнтаў, пра салдатаў, якія ідуць строем галасаваць, і пра працоўных МТЗ, якіх адвозілі на ўчасткі на спецаўтобусах.

У 2015-м на прэзідэнцкіх выбарах, паводле афіцыйных дадзеных, датэрмінова прагаласавалі 36,05% выбаршчыкаў. Так быў пабіты «рэкорд» 2006-га, калі ў датэрміновым галасаванні паўдзельнічалі 31,3% выбаршчыкаў.

Калі браць асобныя катэгорыі выбаршчыкаў, то тут датэрміновая яўка можа набліжацца да 100%. Паводле звестак назіральнікаў, у мінскім студэнцкім гарадку на мясцовых выбарах 2018 года прагаласавала 96% выбаршчыкаў.

У дзень старту датэрміновага галасавання–2019 кіраўнік ЦВК Лідзія Ярмошына падзялілася сваімі прагнозамі. На яе думку, беларусы будуць актыўна галасаваць: «З-за таго, што мы працуем з адным выходным — субота таксама працоўны дзень. Я думаю, выбаршчыкі скарыстаюцца магчымасцю прагаласаваць датэрмінова і вызваліць адзіны выходны».

Пра тое, што дэфіцыту тых, хто галасуе датэрмінова, не будзе і гэтым разам, сведчаць матэрыялы незалежных назіральнікаў і праваабаронцаў. У першы ж дзень датэрміновага галасавання з многіх ВНУ стала сцякацца інфармацыя аб настойлівых просьбах да студэнтаў прыйсці на ўчасткі да 17 лістапада.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Тэхніка на мяжы фантастыкі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пакуль уся краіна адпачывала, Аляксандр Рыгоравіч напружана працаваў. У Эміраты злётаў і ў Аўстрыю.**



Фота www.charter97.org

Візіт нашага кіраўніка ў Эміраты — вялікая таямніца, некаторыя нават казалі, што ён паехаў туды падлячыцца. Ніякіх абвяржэнняў гэтаму не было. Як і пацверджанняў. І не будзе, таму што, насамрэч, сфера вельмі далікатная.

Як вядома, Эміраты — гэта ці не асноўная пляцоўка ў свеце па гандлі зброяй. І не толькі па гандлі. У верасні Мінск наведваў наследны прынц Абу-Дабі: ён тады сустракаўся з Лукашэнкам. І напярэдадні сустрэчы кіраўнік Дзяржкамваенпрама Беларусі Раман Галоўчанка заявіў, што супрацоўніцтва Беларусі з Эміратамі пераходзіць ад «проста паставак да сумесных распрацовак і даследаванняў. Гэта вельмі перспектыўная галіна, якая дае нам добрую аддачу, у тым ліку фінансавую».

Апроч таго, па словах Галоўчанкі, «мы завяршаем буйны кантракт, які даўно быў абвешчаны — гэта пастаўка партыі танкавых цягачоў, і вядзем перамовы аб нарошчванні паставак і заключэнні новага кантракту на гэтую ж тэхніку па выніках яе эксплуатацыі».

Так што і гэта, і іншыя пытанні, верагодна, і абмяркоўваў Лукашэнка ў Эміратах.

Больш інфармацыі пра візіт у Аўстрыю. Галоўнае ў ім — тое, што ў Вене была падпісаная сумесная дэкларацыя па ўмацаванні супрацоўніцтва ў сферы сувязі, інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій і развіцця тэхналогіі 5G. Дакументам прадугледжана садзейнічанне Аўстрыяй выкарыстанню існуючых інструментаў і іншых формаў сумеснай працы ў галіне інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій для паскарэння развіцця шырокапалоснай сувязі і лічбавых тэхналогій, уключаючы 5G, а таксама аказанне кансультацыйнай дапамогі Беларусі ў распрацоўцы нарматыўна-прававой базы для канкурэнтнага і спрыяльнага інвестыцыйнага асяроддзя. Як вядома, у Беларусі на рынку працуе аўстрыйская кампанія тэлекамунікацыі — A1 (былы velcom).

Зазначым, што A1 самай апошняй падлучыла для сваіх абанентаў сетку 4G. Звязана гэта было з тым, што кампанія ў штыкі ўспрыняла «беларускую мадэль 4G». Справа ў тым, што сетку 4G у нас «развівае» айчынны манапаліст beCloud, а кампаніі мабільнай сувязі павінны плаціць яму ў залежнасці ад трафіку.

Як заўсёды, «беларуская мадэль» палягала ў тым, каб паставіць базавыя станцыі ў буйных гарадах, пачаць «стрыгчы бабло» з аператараў — і на гэтым супакоіцца. Сетку 4G «пракачваюць» пераважна там, дзе яна ёсць. А вось невялікія населеныя пункты ды нават буйныя аўтадарогі так і заставіліся без пакрыцця — нягледзячы на тое, што 4G з'явілася ў нас ужо амаль (без аднаго месяца і тыдня) чатыры гады таму. Тады як стандарт 3G, які развіваў не беларускі манапаліст, а мабільныя аператары, ужо праз тры гады эксплуатацыі быў даступны 90% насельніцтва краіны.

З гэтым аўстрыйская A1 была не згодная. Дырэктар аўстрыйскай кампаніі Гельмут Дуз неаднаразова адзначаў, што ў выніку «ў цяперашні час сітуацыя з 4G і LTE склалася такім чынам, што інфраструктура даступная толькі ў буйных гарадах, паколькі толькі там яна прыбытковая». А A1 і дасюль гатовая інвеставаць значныя сродкі ў развіццё 4G і 5G, узяць на сябе абавязацельствы пакрыць паслугамі не толькі гарады, але і вёскі, забяспечыўшы аднолькавую якасць сувязі пры тым жа ўзроўні коштаў.

«Інвестыцыі ў інфраструктуру — гэта не манапольны прывілей. Калі б beCloud быў гатовы ўкладваць значныя сродкі ў развіццё інфраструктуры, мы б гэта толькі віталі. Але калі не гатовы, мы б хацелі таксама мець такое права», — казаў Дуз.

Мажліва, з падпісаннем адпаведных дакументаў з Аўстрыяй з 5G у нас будзе ўсё нармальна. І некаторыя мястэчкі могуць скочыць у мабільным інтэрнэце «праз прыступку» — з 3G адразу ў 5G.

Аднак выбары прэзідэнта Беларусі ў нас — у наступным годзе. І наўрад ці 5G запрацуе ў Сінявокай праз паўгода. А таму абяцанне Аляксандра Рыгоравіча запусціць у нас 5G ужо ў 2020-м годзе (гэта адно з яго перадвыбарчых абяцанняў у 2015-м) так і застанецца не выкананым.

І не выканаецца — без дапамогі Аўстрыі. Бо трывожныя тэндэнцыі ў эканоміцы Сінявокай працягваюць нарастаць. Напрыклад, Еўразійскі банк развіцця прагназуе, што неўзабаве лясне ці не адзіны гонар дзеючай улады — утаймаваная інфляцыя (разам з больш-менш стабільным курсам беларускага рубля). Як гаворыцца ў макраэканамічным аглядзе па Беларусі, падрыхтаваным дырэкцыяй па аналітычнай працы банка, гэта звязана з экспартам. Каб падтрымаць канкурэнтаздольнасць беларускіх вытворцаў ва ўмовах больш высокай інфляцыі ў краіне ў параўнанні з краінамі-партнёрамі, нам давядзецца «апускаць» беларускі рубель.

Бо запаволенне сусветнай эканомікі, якое назіраецца зараз, можа з вялікай доляй верагоднасці прывесці да зніжэння паступленняў ад экспарту беларускіх тавараў. Таму трэба рабіць іх таннейшымі. Калі паступленні ад экспарту знізяцца, адпаведна, у краіне знізіцца прапанова замежнай валюты, што сфарміруе некаторы ціск на курс нацыянальнай валюты.

Асаблівя гэта важна ў тым, што Расія не кампенсуе Беларусі наступствы ад падатковага манеўру на энерганосьбіты.

А ў нас наперадзе, як было зазначана вышэй, — выдаткі на чарговую «перадвыбарчую вакханалію» ў 2020-м годзе.

Дарэчы, наконт «вакханаліі». Выбары ў Палату прадстаўнікоў праходзяць спакойна, па плане і вызначаным сцэнары, ды, як заўсёды, «з апярэджаннем графіка». Не паспелі адкрыцца ўчасткі для датэрміновага галасавання, як у Мінску і іншых рэгіёнах пачаўся «загон студэнтаў» на гэтае дзейства. Розныя тэлеграм-каналы інфармуюць, што кіраўніцтва ВНУ дае студэнтам выхадныя на суботу і панядзелак — толькі каб яны прагаласавалі датэрмінова. Ужо 11 лістапада студэнтам загадалі прагаласаваць датэрмінова. І такія факты высветленыя не толькі ў Мінску, але ў Гомелі, Брэсце, і нават Ляхавічах!

Пры тым, што ПП нічога не вырашае, незразумела, навошта гэта ўсё. Напэўна, сістэма проста працуе па інерцыі. Але, калі яна працуе так, то дастаткова аднаго непрадказальнага фактару, каб яна паламалася.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Сцяпан Пуціла (NEXTA)



**Знакавы беларускі блогер адхрысціўся ад планаванай вулічнай акцыі, пра якую заявілі актывісты «Еўрапейскай Беларусі».**

Нагадаем, 8 лістапада на плошчы Свабоды ў Мінску прайшла абвешчаная блогерам акцыя. Ён паклікаў на сустрэчу сваіх падпісчыкаў і гледачоў, каб абмеркаваць яго фільм «Лукашэнка. Крымінальныя матэрыялы» і пагаварыць пра тое, «што рабіць далей». Сам блогер не прысутнічаў, бо знаходзіцца ў Польшчы і асцерагаецца прыязджаць у Беларусь з-за крымінальнага пераследу.

У час акцыі ініцыятыву ў заўважнай ступені ўзялі на сябе актывісты руху «Еўрапейская Беларусь», а напрыканцы яе было прапанавана ўсім праз тыдзень, 15 лістапада, сабрацца на акцыю ў Мінску.

Аднак сам NEXTA заявіў у інтэрв'ю, што не мае ніякага дачынення да гэтых заклікаў, а яго мерапрыемства 8 лістапада было проста сустрэчай падпісчыкаў. «Гэта была звычайная сустрэча падпісчыкаў, якія праводзяцца ў многіх краінах. Людзі проста прыходзяць, каб пазнаёміцца, абмеркаваць важныя падзеі. У дадзеным выпадку гэта быў фільм», — сказаў Пуціла.

Пры гэтым блогер адзначыў, што акцыя не была палітычнай, і яе дарма параўноўваць з маўклівымі пратэстамі 2011 года, якія былі таксама ініцыяваныя праз сацсеткі. Тыя, хто гэта робіць, па яго словах, «не адрозніваюць пратэсты ад сустрэч падпісчыкаў». Пуціла заявіў, што сам ён палітыкай не займаецца і не мае дачынення да апазіцыі.

## Ігар Марзалюк



**Дэпутат Палаты прадстаўнікоў чарговым разам апынуўся ў цэнтры ўвагі, зрабіўшы шэраг заяваў з нагоды новай Канстытуцыі на сустрэчы з выбаршчыкамі. Паводле яго, па Асноўным законе краіны ўжо ёсць «17 экспертных прапаноў».**

Больш за тое, ён сказаў, што найважнейшай задачай новага складу парламента будзе «праца над новым варыянтам Канстытуцыі, над новай мадэллю палітычнай сістэмы», якую выбаршчыкі потым ацэняць на рэферэндуме. Па словах Марзалюка, змены ў Канстытуцыю прадугледжваюць узмацненне ўлады парламента і адміністрацыйна-тэрытарыяльную рэформу: «Менавіта беларуская ўлада, якую абвінавачвалі ва ўсіх грахах, асэнсавана будзе ісці на лібералізацыю і ў бок большай свабоды па гэтых кірунках».

Тэма маючых адбыцца змяненняў у Канстытуцыю або зусім новага варыянту Асноўнага закона краіны мусіруецца ўжо даўно, пра гэта некалькі разоў выказваўся і сам Лукашэнка. Адмыслоўцы ў Канстытуцыйным праве (напрыклад, прафесар Міхаіл Пастухоў) даўно зазначалі, што змены ў Канстытуцыю патрэбныя, бо, напрыклад, у ёй прапісаны Гаспадарчы суд, які быў ліквідаваны Лукашэнкам.

Заявы Марзалюка можна расцэньваць як яшчэ адзін знак таго, што пэўная праца сапраўды вядзецца. Але ці прывядзе яна да чаго-небудзь, і наколькі заявы Марзалюка адпавядаюць рэчаіснасці — невядома.

## Надзея Скардзіна



**Алімпійская чэмпіёнка нарадзіла сына. Гэта адбылося 10 лістапада ў 5-м радзільным доме Мінска. Пра вагу і рост малога маладая мама пакуль казаць не хоча.**

Надзеі Скардзіна 34 гады. Яна — бронзавая медалістка Алімпіяды ў Сочы 2014 года і алімпійская чэмпіёнка (у эстафеце) Пхенчхана 2018-га. У мінулым годзе біятланістка абвясціла пра завяршэнне сваёй прафесійнай спартыўнай кар'еры. У гэтым годзе яна выйшла замуж за швейцарскага біятланіста Марціна Ягера. Раней яна не выключала, што ў іх дзіцяці будзе двайное грамадзянства.

31-гадовы Марцін Ягер пачынаў кар'еру ў лыжных гонках і ўзяў срэбра Чэмпіянату свету ў катэгорыі U23 у 2010-м, але пазней перайшоў у біятлон.

Азбука паліталогіі

# Долары як фактар беларускай стабільнасці



Сяргей НІКАЛЮК

**«Нельга не прызнаць справядлівасць ісціны аб тым, што маленькія заробкі здольныя разбурыць нават самую моцную дзяржаву». Залатыя словы, пагадзіцеся. Прамоўленыя яны былі адзіным палітыкам (АП) 18 траўня 2001 года з трыбуны другога Усебеларускага народнага сходу і сваёй актуальнасці да гэтага часу не страцілі.**




У верасні 2019 года сярэднестатыстычны беларус зарабіў 1108,5 рубля, што эквівалентна 538 доларам, ці 484 еўра. У параўнанні з заробкам сярэднестатыстычнага паляка, які атрымлівае каля 900 еўра, такія заробкі варта прызнаць маленькімі. Чым гэта пагражае моцным дзяржавам, сказана вышэй. Але ці можна лічыць такой Рэспубліку Беларусь, што прэтэндуе на званне донара еўрапейскай стабільнасці?

Адназначнага адказу на гэтае пытанне ў мяне няма, але вернемся да прамовы 18 траўня 2001 года: «Мы па крупінках збіралі дзяржаву і разбураную краіну. Калі пасля развалу СССР мы засталіся "без штаноў", дык спрабавалі іх пашыць ледзь не кожнаму, ды яшчэ змагаліся з "пятай" калонай унутры і дабрадзеямі звонку».

За васямнаццаць гадоў, якія прайшлі з дня другога агульнанароднага «веча», ад «пятай» калоны засталіся толькі разрозненыя гурткі па інтарэсах. Галоўная духоўная скрэпа «пятай» калоны — выбары «адзінага» — неяк незаўважна рассмакталася. А якая была ідэя! Колькі сілаў і часу яна паглынула!

Няма сёння праблемаў і са знешнімі «дабрадзеямі» на Захадзе. Што можам — прадаём. На што хапае сродкаў — купляем. Наконт спрашчэння візавага рэжыму амаль дамовіліся. Прыгажосць! Вось толькі на Усходзе не ўсё так складваецца, як хацелася б. Але мілыя сварацца, толькі цешацца. Дзвюм галінам аднаго народа высвятляць адносіны — справа звыклая.

Аднак адсутнасць «пятай» калоны не адмяніла фантомных боляў, якія засталіся ў спадчыну ад «ліхіх 90-х». Адсюль нявызначанасць з выбарамі — яны ці то свята, ці то «вакханалія». Магчыма, мы маем справу са святам электаральнай вакханаліі. Такое вось «два ў адным» з нацыянальным каларытам.

Словы «сіла» і «стабільнасць» не з'яўляюцца сінонімамі. Стабільнасць могілак сілы жывым не дадае. Не дадае стабільнасці і наяўнасць практычна ў кожнага беларуса штаноў. Дзяржава абяцала «іх пашыць ледзь не кожнаму» — і сваё абяцанне яна выканала. Ды што там штаны. Беларусам даўно ўжо не сорамна адзначаць Дзень аўтамабіліста і дарожніка. У гэтым годзе ён прыпаў на 27 кастрычніка. Звернемся да афіцыйнай статыстыкі: колькасць легкавых аўтамабіляў у асабістай уласнасці грамадзян у 2018 года склала 3031 тысячу (2972,7 тысячы ў 2017 годзе), што дазволіла давесці забеспячэнне легкавымі аўтамабілямі на 1000 чалавек насельніцтва да 320 штук.

У 2018 годзе Беларусь імпартавала 86,9 тысячы легкавых аўтамабіляў (158,3% да 2017 года). Свет у цэлым скараціў куплю «жалезных коней» на 4%. Свет скараціў, а беларусы павялічылі, прычым павялічылі на непрыстойны працэнт для краіны, што выпрошвае крэдыты для рэфінансавання ранейшых крэдытаў. Якіх толькі парадоксаў жыццё не падкіне, калі на коне шосты тэрмін! А без яго нам ніяк. Нас 9 454,8 тысячы, але максіма «Калі не ён, дык хто ж?» не губляе сваёй актуальнасці.

**Пэўная выснова з сумнага досведу 2010–2011 гадоў у Беларусі зробленая, пра пачатак масавага павышэння сярэдняга заробку гаворкі сёння не ідзе, што не адмяняе размоваў пра павышэнні кропкавыя**

## Задача пастаўленая, мэта вызначаная

Крыху тэарэтычных ведаў: культура — пазабіялагічны спосаб вырашэння агульнабіялагічных праблемаў. Галоўнай жа праблемай для ўсяго жывога з'яўляецца выжыванне, і вырашаць гэту праблему ўсім біялагічным відам даводзіцца «ў поце твару свайго», г.зн. ва ўмовах *«жэстачайшай»* канкурэнцыі (прыметнік *«жэстачайшы»* ў слоўніку аўтара «Азбукі паліталогіі» адсутнічае, таму яго давялося запазычыць са слоўніку АП).

Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. Таму маленькія заробкі і здольныя разбурыць нават самыя моцныя дзяржавы. Зразумела, калі сіла дзяржаваў і дабрабыт грамадзян ніяк паміж сабой не звязаныя. Прыгадаем сумны лёс СССР з яго парытэтам з ЗША па колькасці ядзерных боегаловак, але з адсутнасцю парытэту па туалетнай паперы на адзін сярэднестатыстычны азадак.

Можна колькі заўгодна ўдасканальваць «беларускую мадэль» з дапамогай прапаганды, але права галасаваць нагамі нікому яшчэ адмяніць не атрымалася. Нічога незвычайнага ў гэтым няма. Іміграцыя — з'ява старая, як свет. Мінула каля 70 тысяч гадоў з таго часу, як прадстаўнікі віду Homo sapiens пакінулі Афрыку і за кароткі паводле гістарычных мерак час засялілі ўсе кантыненты, акрамя Антарктыды.

Адпаведную сацыялогію ў інтэрнэце я не сустрэў, аднак упэўнены, што сярод першых перасяленцаў пераважалі маладыя і прадпрымальныя. Як гэта адбілася на эканамічным развіцці Афрыкі — здагадацца нескладана. Для гэтага дастаткова звярнуцца да беларускага досведу. Тут напрошваецца прамая аналогія.

Праблема адтоку кадраў упершыню была ўсвядомленая кіраўніцтвам краіны яшчэ ў 2008 годзе, што лёгка пацвердзіць цытатай з паслання АП за адпаведны год: «На канец пяцігодкі (2010 год. — *Заўвага рэд.*) нам трэба заработную плату давесці, баюся казаць, але да 700 долараў, нікуды не падзенемся. 500 долараў будзе мала. Трэба 700 — сярэдні заробак па краіне. Тады мы зможам утрымаць стабільнасць у нашым грамадстве.

Задача па дасягненні 700 долараў нарадзілася не на пустым месцы. АП ішоў «ад жыцця» — ад жыцця ў Расіі, у якой, згодна з паведамленнямі Мінстата, у сакавіку 2008 года заработная плата склала 688 долараў.

Задача пастаўленая, мэта вызначаная. Ва ўрадзе пстрыкнулі абцасамі і ўзялі пад казырок. 20 траўня на пасяджэнні прэзідыума Саўміна намеснік міністра фінансаў Андрэй Харкавец запэўніў, што да канца 2009 года сярэдні заробак складзе 550, а да канца 2010 года — 700 долараў! Калі ўлічыць, што стартаваць даводзілася з адзнакі ў 390 «зялёных», то па ўзроўню аптымізму беларускі ўрад мог смела прэтэндаваць на траплянне ў «Кнігу рэкордаў Гінеса».

Вынік шчоўкання абцасамі вядомы: індэкс спажывецкіх цэнаў у апошні год пяцігодкі (снежань 2011 года да снежня 2010-га) склаў 208,7%, а беларускі рубель да долара патаннеў у тры разы.

## Лекары ў медыцыне — не галоўнае

Заснавальнікі савецкай дзяржавы спрабавалі «дагнаць і перагнаць» заходні свет па вытворчасці чыгуну і сталі на душу насельніцтва — і мелі ў гэтым поспехі. Але гэты паказчык выйшаў з моды яшчэ пры дарагім Леаніду Ільічу Брэжневу. Як ні стараліся штатныя прапагандысты, але прытармазіць беспрапынны рост матэрыяльных і духоўных патрэбаў савецкага чалавека ім было не дадзена.

Іх ідэалагічныя нашчадкі сутыкаюцца з аналагічнай праблемай. Аднак адмяніць «жэстачайшую» канкурэнцыю культур яны не ў стане. Дамарослай духоўнасці практычна няма чаго супрацьпаставіць заходняй бездухоўнасці. У другой палове XIX стагоддзя ў аналагічным становішчы апынулася духоўнасць «ідыятызму вясковага жыцця» (Карл Маркс) перад нізкапробнымі спакусамі горада.

Пэўная выснова з сумнага досведу 2010–2011 гадоў у Беларусі зробленая, таму пра пачатак масавага павышэння сярэдняга заробку гаворкі сёння не ідзе, што не адмяняе размоваў пра павышэнні кропкавыя. Адна з такіх гаворак адбылася 30 кастрычніка падчас наведвання АП Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра анкалогіі і медыцынскай радыялогіі.

Падчас размовы з журналістамі было згадана пра нядаўняе рашэнне Польшчы ўвесці новыя правілы для лекараў з-за межаў Еўрасаюза, якія адмяняюць, у прыватнасці, абавязковае пацвярджанне дыплому. Адказ АП цытую паводле прэс-рэлізу: «Нас гэта хвалюе, але не напружвае. Міністр гаворыць, што на працягу двух гадоў наогул гэту праблему (недахопу ўрачоў у медустановах. — *Заўвага рэд.*) здымем. Таму, можа, і нічога страшнага, што чалавек паехаў, недзе чамусьці падвучыўся. Галоўнае, каб ён не забываў пра краіну, вяртаўся назад і дапамагаў ёй».

Лекарам АП паабяцаў да 2025 года падвойныя заробкі. Але лекары ў медыцыне — не галоўнае. Галоўнае — наяўнасць сучаснага абсталявання. «Трэба так зрабіць, каб наш лекар быў абсталяваны, як замежны», — падкрэсліў АП.

Зводзіць мадэрнізацыю да завозу новага абсталявання — гэта не ў Беларусі прыдумалі. Яшчэ пры цару Гароху было заўважана, што абсталяванне ніякіх патрабаванняў да якасці дзяржаўных інстытутаў не прад'яўляе. Абсталяванню глыбока абыякава, дапускаюць кандыдатаў ад апазіцыі да выбараў або здымаюць паводле надуманых прычынаў. Яно гатовае пакорліва гадамі стаяць у скрынях нераспакаваным, і пры гэтым ціхенька маральна састарэць.

З жывымі людзьмі складаней. Маўчаць (гадамі стаяць у скрынях нераспакаванымі) згаджаецца шмат хто, але далёка не ўсе. У гэтым і палягае галоўная праблема ўлады, якая ўзяла на сябе абавязак пашыць ледзь не кожнаму беларусу штаны.

# Павел Усаў: «Рэвалюцыі не робяцца клікам клавіятуры»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Доктар філасофскіх навук, палітолаг Павел Усаў у розных інтэрв'ю шмат разоў аналізаваў сітуацыю ў Беларусі і пагрозы, якія існуюць для нашай дзяржавы. З ім мы гутарым пра найбольш хвалюючыя і вострыя тэмы, якія цікавяць грамадзян, заангажаваных у палітыку.**



***— Вы неаднаразова казалі, што змена ўлады ў Беларусі магчымая толькі ў выніку ўнутранай дэстабілізацыі краіны (эканамічнай і палітычнай). Якім чынам?***

— Калі мы гаворым пра трансфармацыю аўтарытарнай сістэмы накшталт беларускай, то варыянтаў не так шмат. Першы з іх — гэта «рэвалюцыя», масавыя пратэсты і змушэнне кіроўнай эліты да палітычных пераменаў. Безумоўна, дзеля таго, каб пачаліся пратэсты, сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў краіне павінна радыкальна пагоршыцца. Альбо калі ўлада пачне прымаць непапулярныя законы, як гэта было з «дэкрэтам №3», які прывёў да пратэстаў у 2017 годзе.

Аднак проста выйсці на вуліцу таксама недастаткова — гэта павінна быць масавая, салідарная і скаардынаваная акцыя беларускага грамадства, з яснай праграмай і стратэгіяй дзеяння, інакш пратэсты не будуць мець вынікаў. І гэта яшчэ не канец. У такі момант шмат будзе залежаць ад самой улады, ад яе разумення сітуацыі і гатоўнасці пайсці на саступкі і змены. У выпадку, калі кіроўныя эліты вырашаць змагацца за захаванне сваёй улады любымі сродкамі, то ў Беларусі можа паўтарыцца сцэнар Украіны ці Венесуэлы.

Другі сцэнар пераменаў — унутраная дэкансалідацыя ўлады, якая можа адбыцца ў выніку хваробы ці смерці аўтарытарнага лідара. Калі кіроўная група будзе не ўстане выпрацаваць эфектыўны механізм пераходу ўлады да іншага кіраўніка і ўтрымаць кантроль, накшталт таго, як гэта адбылося ва Узбекістане ці Азербайджане, адбудуцца сур'ёзныя змены ў кірунку дэмакратызацыі краіны.

Таксама патрэбна разуменне таго, што дзеля хуткага і эфектыўнага пераходу да дэмакратыі, да нармальных сацыяльна-эканамічных і палітычных адносінаў, неабходна наяўнасць кваліфікаванай апазіцыі (дэмакратычнай супольнасці). Проста зрынуць аўтарытарны рэжым недастаткова — трэба, каб да ўлады прыйшлі людзі-дзяржаўнікі, для якіх лёс краіны, яе будучыня стануць важнейшымі за нейкія прыватныя інтарэсы. Інакш Беларусь чакае працяглы ўнутраны крызіс і паўтор сітуацыі Украіны ці Малдовы, што таксама не выключае вяртанне да папулісцкага аўтарытарызму. Да таго ж мы не разглядаем фактару Расіі, якая, калі застанецца аўтарытарнай, не дазволіць, каб у Беларусі адбыліся дэмакратычныя перамены.

***— У адным са сваіх інтэрв'ю вы выказаліся, што стварэнне агульных з Расіяй палітычных інстытутаў можа азначаць, што ў 2024 годзе Пуцін стане прэзідэнтам Саюзнай дзяржавы. Наколькі гэта рэальны сцэнар?***

— Пытанне ў тым, наколькі рэальна Крэмль разглядае сцэнар, пры якім Пуцін будзе кіраўніком (суперпрэзідэнтам) Саюзнай дзяржавы. Улічваючы ўсе тыя геапалітычныя зрухі, якія маюць месца ў апошнія гады, імперскасць з боку Расіі ў знешніх адносінах і да таго падобнае, такога развіцця падзей выключаць нельга. Аўтарытарызм і імперскасць — два складнікі сённяшняй Расіі. Унутраная стабільнасць аўтарытарнай сістэмы Расіі магчымая пры новых геапалітычных перамогах і пашырэнні яе тэрыторыі. Як толькі ўлада ў Расіі перастае быць здольнай рэалізоўваць палітыку знешняй экспансіі, пачынаецца ўнутраны крызіс і распад. Беларусь — прывабны аб'ект, які можа забяспечыць палітычныя патрэбы расійскай аўтарытарнай улады. А гэта, у сваю чаргу, азначае, што Беларусь знаходзіцца ў вялікай небяспецы. У выніку рэалізацыі сцэнару наша краіна цалкам страціць сваю суб'ектнасць і вернецца да статусу рэспублікі часоў СССР. Канешне, як і тады, у краіне застануцца атрыбуты дзяржаўнасці, і нават прэзідэнт, але ўсе інстытуты і ўнутраная палітыка будзе кантралявацца і фарміравацца Масквой. Беларусы на доўгія гады зноў страцяць магчымасць распараджацца сваім лёсам.

***— Шмат хто не верыць у планы Расіі далучыць Беларусь. Сапраўднае далучэнне Беларусі для іх прадстаўляецца ў выглядзе расійскіх салдат на вуліцах гарадоў…***

— Простыя беларусы, і нават некаторыя эксперты, не зусім правільна ўяўляюць, з якімі працэсамі мы маем справу. Трэба разумець, што гаворка ідзе не пра далучэнне да Расіі, інакш кажучы, захоп і акупацыю. Нават у Маскве ніхто не разглядае гэты сцэнар. Падобныя дзеянні з боку Расіі маглі б прывесці да непрадказальных вынікаў і вялікіх стратаў (палітычных, эканамічных і іншых).

Насамрэч, усё адбываецца на падставе дамоўленасцяў паміж Беларуссю і Расіяй, якія ў 1999 годзе запусцілі працэс інтэграцыі. Упэўнены, што шмат хто з беларусаў не супраць інтэграцыі, асабліва калі прапаганда кажа пра падабенства саюзнай інтэграцыі да еўрапейскай і паляпшэнне жыцця беларусаў у выніку інтэграцыі. Больш за тое, трэба памятаць, што з 1999 года мы дэ-факта ўжо жывем у Саюзнай дзяржаве, дзе функцыянуюць пэўныя агульныя палітычныя інстытуты ды іншыя атрыбуты: парламенцкі сход, саюзны бюджэт, Сталы Камітэт Саюзнай дзяржавы, адсутнасць мяжы паміж дзяржавамі…

Зараз Масква жадае працяснуць усе тыя пункты саюзнай дамовы, у тым ліку і палітычныя, якія дазволяць падпарадкаваць Беларусь без нейкай вайсковай экспансіі і нябачна для большасці беларусаў. Пры гэтым беларускія ўлады прыхоўваюць інфармацыю пра праграму паглыбленай інтэграцыі, якая павінна быць падпісаная 8 снежня. Усе дзяржаўныя медыя таксама захоўваюць маўчанне, нібы праблемы ніякай няма.

Лічу, што Лукашэнка і яго атачэнне вераць, што, падпісаўшы дакументы, змогуць сабатаваць іх рэалізацыю. Гэта прыклад палітычнага авантурызму і безадказнасці, бо гульні з Расіяй вельмі небяспечныя. Ва ўмовах маўчання з боку афіцыйнага Мінску, адзінае, што застаецца, — гэта інфармацыйная актыўнасць незалежных СМІ, грамадскіх арганізацый і дэмакратычнай супольнасці, якая павінна разварушыць нашае грамадства і прымусіць улады спыніць інтэграцыю.

***— Для супрацьстаяння інтэграцыі ствараюцца новыя ініцыятывы («Свежы вецер»), Мікалай Статкевіч заклікае выходзіць на плошчу. А ці можна грамадзянам рэальна супрацьстаяць страце незалежнасці?***

— Цяпер мы маем крытычную сітуацыю, момант праўды, таму вельмі важна не быць пасіўным назіральнікам. Самі па сабе ніякія ініцыятывы, нават добрыя і важныя, не змогуць змяніць сітуацыі, калі большасць грамадзян не будуць успрымаць незалежнасць краіны як найвышэйшую каштоўнасць, калі яны не будуць актыўна падключацца да гэтых ініцыятыў. Мітынгі, пікеты, дэманстрацыі — гэта метады непасрэднага праяўлення волі народа. Арганізоўваць і праводзіць іх варта, каб беларуская ўлада і Крэмль бачылі, што беларусы гатовыя бараніць незалежнасць сваёй краіны. Трэба паказаць Маскве, што кошт «інтэграцыі» Беларусі будзе непрымальным і катастрафічным для Расіі. Але пакуль мы бачым вялізныя натоўпы нашых грамадзян толькі падчас раздачы бургераў расійскім «музыкам».

***— Вы крытыкуеце нашу слабую апазіцыю, яе ўдзел у выбарах і робіце выснову, што грамадзяне могуць зрабіць толькі адно — не пайсці на фальсіфікаваныя выбары.***

— Удзел у фальсіфікаваных выбарах нічога не дае апазіцыі. Гэта не прыводзіць да яе ўзмацнення і папулярнасці, гэта не прыводзіць да мабілізацыі грамадства і да супраціву. У выніку ўдзельнікі выбараў ператвараюцца ў элемент маніпуляцый, яны становяцца дэкарацыяй і спрыяюць падману выбарцаў. Калі б апазіцыя агулам прадэманстравала, што не будзе ўдзельнічаць у «выбарах», пакуль не будуць створаны нармальныя ўмовы, сэнсу было б больш. Але лягчэй удзельнічаць у фальсіфікаваных выбарах, чым дамагацца вяртання праўдзівых выбараў.

Канешне, няўдзел — гэта, хутчэй, маральны супраціў палітычнаму падману і хлусні. Іншы спосаб праявіць грамадзянскую пазіцыю — выйсці на вуліцу. Але папярэдні досвед пратэстаў 2006, 2010, 2011 гадоў паказаў, што без яснай стратэгіі дзеяння і каардынацыі, без непасрэднай канфрантацыі з уладамі пратэст не прынясе выніку. Нават тыя 100 тысяч, якія выйдуць на Плошчу, павінны ведаць, што рабіць.

Улічваючы, што зладзіць пратэст, які будзе мець вынікі, пакуль немагчыма, дый няма каму, адзінае, што можна зрабіць простым грамадзянам, — масава сабатаваць галасаванне. Уладам вельмі важна паказаць, што большасць грамадзян падтрымліваюць сістэму, дзеля гэтага ствараецца малюнак «высокай яўкі», дзеля гэтага нават афіцыйна забаронены «байкот».

Безумоўна, у аўтарытарнай сістэме выказваць і бараніць сваю грамадзянскую пазіцыю цяжка. У дзяржаве створаныя ўмовы, пры якіх асоба фактычна застаецца сам-насам з сістэмай. Супраціўляцца, трымацца сваёй пазіцыі ці падпарадкавацца — гэта, перш за ўсё, уласны выбар кожнага чалавека. Не трэба забываць і тое, што ўся сістэма рэпрэсій і фальсіфікацый складаецца з людзей, суграмадзян, якія зрабілі свой выбар. Яны выбралі камфорт, узнагароду і адмовіліся ад тых каштоўнасцяў, якія робяць чалавека Чалавекам.

Другі момант — калектыўная салідарнасць, узаемападтрымка, якія могуць дапамагчы абараніць усіх і кожнага. Калі студэнты, настаўнікі, працоўныя зразумеюць, што разам яны — сіла, што калектыўная салідарнасць зламала нямала сістэмаў, ніхто не зможа іх прымусіць. Лакальная салідарнасць перарастае ў палітычную — і гэта адзіны шлях да пераменаў.

Канешне, не варта чакаць нейкіх радыкальных зрухаў у грамадстве і масавага руху. Відавочна, што ёсць запыт на перамены, ёсць запыт на новых палітыкаў і грамадскіх дзеячаў. Больш за тое, напэўна, ёсць вялікая колькасць людзей, гатовых выйсці на вуліцу. Аднак дзеянне ў рэальнасці патрабуе сур'ёзнага падыходу, падрыхтоўкі і працы. Рэвалюцыі і перамены не робяцца клікам клавіятуры. Тым не менш, той факт, што грамадства паступова змяняецца, дае нашай краіне надзею.

**Калі студэнты, настаўнікі, працоўныя зразумеюць, што разам яны — сіла, што калектыўная салідарнасць зламала нямала сістэмаў, ніхто не зможа іх прымусіць. Лакальная салідарнасць перарастае ў палітычную — і гэта шлях да пераменаў**

# Алена Церашкова: Дэпутат мусіць выйсці

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Чытачы «Новага Часу» ведаюць Алену Церашкову як сківічна-тваравага хірурга і аўтарку тэматычных нататак. Апроч таго яна — маці чатырох беларускамоўных дзяцей, пісьменніца і перакладчыца, выкладчыца на моўных курсах, музыкант, шахматыстка, двухразовая чэмпіёнка Беларусі па таэквандо. А цяпер — яшчэ і кандыдатка ў дэпутаты па мінскай Каменнагорскай выбарчай акрузе №101 ад грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь».**




***— Як атрымалася, што пры такой колькасці творчых і спартыўных здольнасцяў вы звязалі свой лёс з медыцынай?***

— З дзяцінства маці вадзіла мяне ў розныя гурткі. Яна лічыла добрым, калі чалавек і маляваць навучыцца, і музычную адукацыю займее. У першым класе настаўніца прывяла нас на шахматы. А паколькі ў мяне ў сям'і былі стрыечныя браты, мне хацелася развівацца фізічна, каб ад іх не адставаць. Паўстала пытанне сур'ёзнага спорту. У гэты час у кінатэатрах сталі паказваць фільмы пра баявыя майстэрствы. Паглядзела ў кіно на Хан Гіль Дона — і мне захацелася нейкім чынам яму адпавядаць. Неўзабаве ўбачыла абвестку пра набор на таэквандо — ды туды трапіла.

А шлях у медыцыну пачаўся праз таэквандо, калі мне ў дзясятым класе высадзілі зубы. Я ўпершыню сутыкнулася з медыцынай па-за межамі педыятрыі — убачыла, што такое хірургія. І мяне гэта натхніла, таму ў 11 класе я ўжо была цвёрда накіраваная паступаць у медыцынскі інстытут.

***— Вы выхоўваеце дзяцей па-беларуску?***

— Так, нашыя дзеці ад нараджэння гавораць па-беларуску. У нас ёсць дзве бабулі, якія шчыльна кантактуюць з дзецьмі, таму міма рускай мовы яны таксама не праскокваюць і растуць білінгвамі. Але ў сям'і ў нас заведзена, што 95% часу яны размаўляюць па-беларуску, за выняткам школы, — яны ходзяць у рускамоўную школу.

***— Ваша літаратурная, перакладчыцкая, выкладчыцкая дзейнасць звязаная з недахопам беларускамоўнага асяроддзя для дзяцей?***

— Калі мы з мужам пабраліся шлюбам, прынялі рашэнне, што дзеці будуць гадавацца па-беларуску. Але напачатку 2000-х гадоў сутыкнуліся з тым, што не маем кніжак для дзяцей па-беларуску. І паўстала пытанне саматужных перакладаў. У гэты ж час мы пазнаёміліся з сем'ямі, якія таксама неўзабаве чакалі дзяцей і меркавалі іх гадаваць па-беларуску. Разам мы дамагліся адкрыцця першай у горадзе беларускамоўнай ясельнай групы ў садку. Для яе перакладаліся розныя матэрыялы, у тым ліку добрая, я лічу, савецкая класіка. Такім чынам з'явіліся беларускамоўныя пераклады Чукоўскага, Барто, Міхалкова. Усё гэта акумулявалася на сайце dzietki.org, які ў цяперашні час перабраўся ў інтэрнэт-архіў, таму што нашы дзеці выраслі, а наступныя генерацыі яго не падхапілі. Напэўна, гэта натуральны працэс, таму што цяпер адшукаць нешта беларускамоўнае і ў інтэрнэце, і ў афлайне нескладана.

***— Як шматдзетная маці, што вы можаце сказаць пра створаныя ў краіне ўмовы для нараджэння і выхавання дзяцей?***

— Шматдзетнасць — гэта альбо выбар людзей, якія насамрэч хочуць мець вялікую сям'ю, альбо выпадковыя абставіны ў тых, хто не займаецца планаваннем сям'і. І першых не так мала. Тое, што шматдзетныя — сацыяльна нізкія сем'і, — гэта няпраўда. Але ці ўплывае на шматдзетнасць дзяржаўная палітыка? Баюся, не асабліва, бо нельга пераскочыць праз эканоміку.

Шматдзетныя бацькі — прафесіяналы. Таму што дзеці — гэта пастаянны паўсюдны выклік, які развівае гнуткасць мазгоў. Калі дарослы дае рады з двуматрыма дзецьмі, ён дасць рады ў любой складанай сітуацыі, калі яму не звязваць рукі. Але ў Беларусі прафесіяналы не цэняцца. Таму што мы не маем свабоды асобы — а гэта дзве рэчы, якія ідуць разам. Прафесіянал альбо з'язджае па свабоду, або страчвае сябе, падпарадкоўваючыся сістэме. Пакуль у нас вертыкальшчыкі кіруюць спецыялістамі, нічога добрага не будзе. Вертыкаль увогуле трэба пакінуць для нейкіх спецыфічных выпадкаў, кшталту войска альбо міліцыі, дзе рэальна павінна быць падпарадкаванне. А ў сферах, дзе павінен быць прагрэс, — у той жа медыцыне ці, тым больш, адукацыі, — вертыкаль засякае на корані ўсё «разумнае, добрае, вечнае».

Тое, што чалавек з уяўленнем пра адукацыю глыбокага Савецкага Саюза спрабуе падагнаць пад яго сучасную еўрапейскую краіну, — неразумна і небяспечна. Кожная адукацыйная рэформа адкідае нас на ніжэйшы ўзровень адукаванасці. Мы ўжо падцягваем моцных пад слабых, а не наадварот. Я добра ведаю, што адбываецца ў сістэме адукацыі цягам апошніх 30 гадоў, таму што мая маці — настаўніца з 45-гадовым стажам. Яна кажа, што ў яе часы адукацыя, магчыма, была не такая разнапланавая, як сёння, але дзеці навучаліся вучыцца і здабываць інфармацыю сістэмна.

***— Вы лічыце магчымымі перамены пры цяперашняй уладзе?***

— У грамадстве парушаныя сувязі. Мы, актывісты, якія на вуліцах працуюць з насельніцтвам, можам спрыяць аднаўленню гэтых сувязяў. Напрыклад, мне не падабаецца пазіцыя байкоту выбараў. Таму што тым самым абрываецца сувязь. І з гледзішча зверху гэта можа выглядаць так: людзі не ходзяць на выбары, значыць, ім не патрэбныя змены. Ці разгледзім сітуацыю, калі яўка высокая, і дзве трацiны выбаршчыкаў прагаласавалі за альтэрнатыўных кандыдатаў (нават калі яны не перамаглі). Для ўладаў гэта сігнал, што яны робяць нешта не тое: людзі падняліся з канапаў, прыйшлі на выбарчыя ўчасткі і не падтрымліваюць тое, што ім спрабуюць прапхнуць. Гэта не значыць, што яны адразу пойдуць сумленна лічыць галасы. Аднак грамадства не можа даць сігнал уладзе інакш, апроч як двума спосабамі: праз выбары і праз вулічныя акцыі. Чакаць вулічных акцый пакуль бессэнсоўна, таму што людзі трымаюцца за працу і не дайшлі да таго стану, калі няма чаго есці.

Людзі гатовыя да актыўнасці, калі ім нічога не пагражае.

# Як кандыдаты на піўной дуэлі змагаліся

Лёлік УШКІН

**У трэндзе цяпер — мода кампенсаваць нудоту гэтых выбараў успамінамі пра заліхвацкія кампаніі 1990-х гадоў. Аматарам такога жанру дакладна спадабаецца феерычная гісторыя паходу студэнта-анархіста Ігара Бухарава ў парламент у 1995 годзе.**




Агітацыйны плакат

У сярэдзіне 1990-х гадоў геаграфія анархіцкага Мінску складалася з некалькі кропак: «Панікоўка», шэраг пакояў у інтэрнатах БДУ ды буфет «Ленінкі», дзе вольна прадавалася піва. Недзе ў гэтым «бермудскім трохкутніку» ўзімку 1995-га і нарадзілася ідэя — на выбары ў Вярхоўны Савет, анансаваныя на травень, высунуць нейкага студэнта.

Намер актыўна падтрымаў аргенцінец Серхіа, які вучыўся ў інстытуце замежных моваў. На радзіме Серхіа быў трацкістам, меў вопыт удзелу ў выбарчых акцыях, якім хацеў падзяліцца. Пры гэтым у яго быў выхад на беларускія незалежныя прафсаюзы, што валодалі капіравальнай тэхнікай.

Заставалася знайсці кандыдата. І тут раптам прагучала прозвішча студэнта філфака Ігара Бухарава. Яшчэ да непасрэднага знаёмства было відавочна, што гэта, мякка кажучы, незвычайная асоба. Напрыклад, распавядалі, што падчас праходжання педагагічнай практыкі Ігар, заявіўшыся ў клас «пад градусам», прымусіў вучняў «скланяць дзеяслоў нешта». Прычым дзеці падпарадкаваліся.

Цяпер ужо цяжка сказаць, чаму Ігар Віктаравіч Бухараў пагадзіўся на ўдзел у авантуры. Магчыма, таму, што кандыдацтва давала шанец адтэрмінаваць загад аб выключэнні з універсітэту, які вось-вось павінен быў падпісаць дэкан. Акрамя таго, тым, хто сабраў подпісы і быў зарэгістраваны кандыдатам, дзяржавай выдавалася фантастычная па тых часах сума, эквівалентная 50 доларам. Мы ўсур'ёз марылі сабраць патрэбныя для рэгістрацыі подпісы, атрымаць грошы, і, забіўшы на выбары, замуціць на ўвесь інтэрнат грандыёзны сабантуй.

Адначасова намаляваўся нейкі імправізаваны выбарчы штаб Бухарава ў складзе 4–5 студэнтаў з вельмі супярэчлівымі палітычнымі поглядамі. Ігар лічыў сябе анархістам, будучы адначасова ў захапленні ад пасажаў Жырыноўскага (зрэшты, падобны дыягназ быў уласцівы шмат каму). Мая прапанова назваць выбарчую ініцыятыву «Левое студенческое движение» прайшла на ўра выключна дзякуючы яе правакацыйнай абрэвіятуры — ЛСД. Акрамя таго, слова «левы» нагадвала жарганізм «лявачыць» — займацца нефармальным бізнесам.

Збегалі ў краму па сёе-тое ды селі пісаць праграму кандыдата і план кампаніі. Паколькі ўсе прысутныя слухалі альтэрнатыўны рок, адразу ж усплыло імя Біяфры — лідара культавага панк-гурта Dead Kennedys, які ў 1979 годзе балатаваўся ў мэры пад вельмі экстравагантнай праграмай. У падобным сюррэалістычным ключы была вытрыманая і праграма Бухарава, аўтары якой бачылі Беларусь не «сумная буржуазнай дзяржавай», а самай «прыкольнай краінай Еўропы». У выпадку абрання наш кандыдат абяцаў пачаць беларускую каланізацыю Антарктыды (з адпаведным генацыдам пінгвінаў), ператварэнне Мінска ў сталіцу алімпійскага руху для людзей, якія пакутуюць на ментальныя хваробы, надаць азбуцы Морзе статус дзяржаўнай мовы... Найбольш цікавым быў пункт ускосна адрасаваны супрацоўнікам ЦВК. У выпадку адмовы рэгістраваць Бухарава ў якасці кандыдата, планавалася стварыць альтэрнатыўны Вярхоўны Савет — ды правесці ў яго выбары. Асобны пункт заклікаў АГЛ падтрымаць Бухарава, каб разам заняцца дыскрэдытацыяй інстытутаў дзяржавы. Каб не шакаваць знаёмага аргенцінца і яго прафсаюзных сяброў, гэты трэш і ўгар разбавілі пунктам пра студэнцкае самакіраванне.

Дагрукацца да сэрцаў выбаршчыка планавалася за кошт серыі правакацыйных улётак з выявамі, як зараз модна казаць, селебрыці. Памятаю, што на адной з іх была выяўленая Ала Пугачова, якая прызнавала, што Бухараў лепшы за Кіркорава. На іншай павінен быў красавацца Гітлер з «цытатай»: «Бухараў — гэта чалавек, якога я заўжды баяўся». Была яшчэ ўлётка з порназоркай Чычалінай. Так ці інакш, у Серхіа і яго прафсаюзнікаў такая творчасць захаплення не выклікала. У выніку кампрамісу свет пабачыла толькі пракламацыя «Яго шукае інтэрпол...», якую галоўным чынам і вывешвалі ў інтэрнатах.

Нягледзячы на слабы тэхніча-матэрыяльны рэсурс, старт кампаніі быў някепскі. Высвет-

# на плошчу разам з народам

Стоячы на вуліцы ў пікетах, я па некалькі разоў на дзень чую, куды і з якой вінтоўкай трэба прыйсці. Мы гэтыя размовы не падтрымліваем, таму што гэта нічога не вырашыць. Калі знікне Лукашэнка, сістэма застанецца. А лідары думкі павінны быць гатовыя да змены сістэмы ў патрэбны момант. Павінны варушыцца партыі — яны для гэтага створаныя. Але калі мы не ходзім да людзей і не распавядаем, што альтэрнатыва ёсць, то нас не ўспрымуць усур'ёз у самы крытычны момант. Таму канапныя байкоты — злачынства ў гэтай сітуацыі. Зразумела, чым яны выкліканыя: людзі хадзілі па вуліцах, не атрымалі ніякага выніку — і расчараваліся. Але зло — калі ты сам, расчараваўшыся, распаўсюджваеш гэтае расчараванне далей.

***— Давайце ўявім, што вас выберуць у дэпутаты. Як вы паставіцеся да гэтай сітуацыі і ці будзеце гатовыя да далейшай працы ў парламенце?***

— Гэта складаная сітуацыя маральнага выбару. Трэба аддаваць сабе справаздачу ў некалькіх рэчах. Па-першае, прызначаны парламент — гэта кепска. З іншага боку, гульня ідзе — з намі альбо без нас. Тое, што Анісім і Канапацкая былі ў парламенце, — гэта някепска. У нас ёсць два чалавекі, якія ведаюць гэтую кухню знутры. Таму крытыкаваць іх — папросту неканструктыўна.

Насамрэч, канешне, хочацца прайсці і ўсё ўбачыць на свае вочы. Ёсць умовы, калі трэба скасоўваць любыя сувязі з уладай, а ёсць умовы, калі можна ісці на нейкія кампрамісы. Таму давайце пачакаем.

***— Вы першы раз балатуецеся ў якасці кандыдата ў дэпутаты. Чаму не рабілі гэтага раней?***

— Кожны чалавек саспявае ў сваім тэмпе. Перад тым, як нешта рабіць, трэба закласці асновы. Цяпер у мяне яны ёсць. У мяне сям'я аднадумцаў. У мяне падгадаваныя дзеці. У мяне ёсць прафесійны ўзровень, які мяне пракорміць у любым разе дзе заўгодна. Таму цяпер ва ўладаў няма на мяне амаль ніякіх рычагоў ціску, апроч фізічнага гвалту і пазбаўлення волі, на што я іх правакаваць бліжэйшым часам не збіраюся.

***— У вашай праграме — спыненне БелАЭС, падтрымка беларускай мовы і культуры, паляпшэнне ўзроўню жыцця і вяртанне ўлады народу. Хочацца спыніцца на двух апошніх пунктах: як вы збіраецеся гэта рабіць?***

— Калі мы зазірнем у нашы законы і Канстытуцыю, убачым, што там, хоць і не вельмі дасканала, але прапісаныя дэмакратычныя механізмы. Яны створаныя, але адзіная бяда — што яны працуюць пад ручным кіраваннем.

Дапусцім, Лукашэнка баіцца прачнуцца 8 снежня ў іншай краіне ў якасці якога-небудзь намесніка губернатара. У яго ёсць вельмі добрае выйсце — спласціца на беларускі народ, які не хоча інтэграцыі з Расіяй. Але для таго, каб гэта прадэманстраваць, яму патрэбныя альбо натоўпы на вуліцах (а гэта рызыкоўна), альбо прызнаны легітымным рэферэндум, дзе народ недвухсэнсоўна выказваецца супраць.

А дабрабыт беларусы створаць сабе самі, як толькі на іх перастануць ціснуць дурнымі падаткамі. Бізнес уздыхне лягчэй — і адразу пойдзе развіццё. Калі зменшыць долю ручнога кіравання, дзяржаўныя прадпрыемствы перастануць трымаць людзей толькі дзеля таго, каб яны не выйшлі на вуліцы. Трэба штосьці мяняць і, магчыма, людскія рэсурсы адпусціць. Частка з іх знойдзе сябе ў свабоднай эканоміцы.

Трэба перастаць баяцца. Так, можа быць горш. Але трэба ўзяць адказнасць за сваё жыццё на сябе. Беларусы не любяць браць адказнасць — нас ад гэтага адвучваюць, кажуць, што ад нас нічога не залежыць. Гэта няправільна.

Яшчэ адзін крок — трэба выкарыстоўваць магчымасці. Выбары даюць іх шмат, але не ўсе палітыкі гэтым карыстаюцца.

***— Вы закранулі тэму інтэграцыі — як беларусы могуць ёй супрацьстаяць?***

— Мы бачым, як адно за адным прадаюцца беларускія прадпрыемствы. Ці гэта не кошт адтэрміноўкі нашай анексіі? Калі бліжэйшым часам дзяржава не павернецца да народа і не будзе ўлічваць яго інтарэсы, не варта разлічваць, што народ зможа супрацьстаяць анексіі. І таму вельмі важна адраджаць беларускую мову і культуру цяпер, каб народ адчуваў сябе народам, а не тады, калі прыйдуць «зялёныя чалавечкі».

На дэбатах я задала апаненту пытанне: «Што, як чалавек і дэпутат, вы будзеце рабіць, калі раптам у адзін дзень па тэлебачанні скажуць, што Беларусь і Расія — адна дзяржава?». Ён не знайшоўся што адказаць. Калі заканатворца не ведае, што адказаць у гэтым выпадку, ці магу я пачувацца спакойнай? Тое, што Беларусь — не частка Расіі, гэта не заслуга беларускага рэжыму, а недапрацоўка расійскага. І зараз мы не маем моцы, каб супрацьстаяць захопу. Канешне, народ можа сысці ў лясы, распачаць вызваленчы рух, але мы ўсе разумеем, што будзе ліцца кроў. І ці зможа перамагчы ў гэтым змаганні народ, калі сістэмы, закліканыя бараніць незалежнасць, не спрацуюць?..

***— Адрасую вашае пытанне вам жа: калі б вы сталі дэпутатам, што б прадпрымалі, каб не дапусціць паглынання?***

— Дэпутат мае доступ да СМІ. Таму ён мусіць дабівацца прамых эфіраў, гуртаваць вакол сябе людзей. Усе адэкватныя дэпутаты павінны забыцца на рознасць палітычных пазіцый і заклікаць дзяржаўныя структуры і грамадзян да гуртавання, а ў выпадку чаго — да супраціву. Дэпутат — той, хто першым мусіць выйсці на трыбуну і казаць пра галоўнае. І выйсці на плошчу разам з народам: ствараць санітарныя батальёны, цягнуць пакрышкі, раздаваць людзям зброю, калі таго запатрабуе сітуацыя. Дэпутаты — тыя, хто ў выпадку чаго павінны браць на сябе адказнасць за краіну.

***— Карыстаючыся магчымасцю, што б вы хацелі сказаць патэнцыйным выбаршчыкам?***

— Беларусы могуць зрабіць вельмі шмат. З аднаго боку, яны працавітыя, адданыя, моцныя, паслядоўныя. З іншага боку, як кажуць, беларусу беларус — самы горшы беларус. Чамусьці мы не можам дараваць што няўдачы, што поспехі сваім апанентам. Таму мне хочацца сказаць беларусам, каб яны бачылі адно ў адным людзей складаных, не чорна-белых. Нам не трэба дзяліцца. Нам трэба шукаць агульныя моманты, якія дапамогуць нам супольна нешта вырашаць. Быць адказнымі, талерантнымі, паслядоўнымі і прынцыповымі — і ў першую чаргу ў дачыненні да сябе. І тады будзем непераможнымі.

**«Грамадства не можа даць сігнал уладзе іначай, апроч як двума спосабамі: праз выбары і праз вулічныя акцыі. Чакаць вулічных акцый пакуль бессэнсоўна, таму што людзі трымаюцца за працу і не дайшлі да таго стану, калі няма чаго есці»**





Перадвыбарчы пікет Бухарава

лілася, што 24-гадовы Ігар Бухараў быў самым маладым грамадзянінам краіны, які вырашыў атрымаць мандат парламентарыя. Як вынік, яго імя час ад часу гучала па радыё. Па інтэрнатах БДУ, якія знаходзіліся на нашай 203-й выбарчай акрузе, папаўзлі чуткі пра нейкага сціплага студэнта, які вырашыў штурмаваць палітычны Алімп.

Давялося рэагаваць на падзею і афіцыйнаму выданню БДУ. Яго супрацоўніца, цяперашні рэдактар навінаў «Белсату» Кацярына Ткачэнка вылічыла і дапытала мяне ў якасці прадстаўніка штабу Бухарава. Сярод іншага занатавала наступны пункт праграмы Бухарава: «Пасля перамогі прымусіць выкладчыкаў універсітэтаў насіць касцюмы блазанаў». Цікава, якой была рэакцыя педагогаў, калі яны ўсё гэта чыталі?

Як ні дзіўна, адносная лакальная папулярнасць Бухарава адмоўна ўплывала на тэмпы збору подпісаў. Студэнты інтэрнатаў ахвотна адчынялі дзверы зборшчыкам і калектыўна падпісваліся за Бухарава. Але яны таксама і ахвотна налівалі. Маскоўскае анархісцкае выданне «Чёрная звезда», каментуючы кампанію Бухарава, апублікавала свой іранічны варыянт справаздачы бухараўскага штабу: «Першы дзень — 101 подпіс і 1 літр гарэлкі на дваіх. Другі дзень: 30 подпісаў і 1,5 літра на траіх. Трэці дзень — 2,5 літра і 1 подпіс на траіх».

Нягледзячы на тое, што збор подпісаў буксаваў, сама «бухараманія», наадварот, набірала абароты. Вакол штабу тусавалася ўсё больш маладых творчых людзей. Крэатыў не меў межаў. Напрыклад, 1 красавіка «бухараўцы» выйшлі на пікет стаматалагічнай паліклінікі, што тады знаходзілася ўнутры дворыка БДУ. Гэтая акцыя павінна была давесці наш пратэст супраць уздыму коштаў на чыгуначны транспарт. Нават жудасна ўзгадаць, што публічныя акцыі тады мелі паведамляльны характар — таму пікет перад уваходам у геаграфічны факультэт быў дазволены ды прайшоў без усялякіх канфліктаў з міліцыянтам, які мільгацеў недзе на заднім фоне.

Акрамя непасрэднай агітацыі за Бухарава складаліся падступныя планы супраць канкурэнтаў па акрузе, уключаючы Андрэя Рамашэўскага — правадыра Партыі аматараў піва (ПАП). Дзякуючы кантактам сярод журналістаў мегапапулярнае на той час «Знамя Юности» перадрукавала адкрыты ліст «ЛСД» на адрас кіраўніцтва ПАП. У лісце актывісты ПАП называліся «жаласнымі суслікамі, якія нічога не разумеюць у ячменных напоях». Камандзе Рамашэўскага прапанавалася правесці піўны двубой па катэгарычным прынцыпе: хто каго перап'е, той і застанецца балатавацца па акрузе. Лузер павінен быў зняць сваю кандыдатуру з выбараў.

На нашае здзіўленне, выклік быў прыняты. Дуэль адбылася ў піўным бары «Старое русла», што калісьці знаходзіўся насупраць ліцэю БДУ. Пераможцам павінна была быць каманда кандыдата з трох чалавек, якая хутчэй за візаві накаціць 10 куфляў піва (іх за свае грошы набылі ПАПаўцы). Па знаку секунданта (быў там і такі) «бойка» пачалася. Праўда, двубой цягнуўся хвілін 10–15. Гэтага часу нашым апанентам хапіла каб выжлукціць усе свае дзесяць куфляў. Нам заставалася толькі прызнаць сябе прайграўшымі, праводзіць ужо «цёпленькіх» пераможцаў і застацца радасна дапіваць халяўнае піва. Пасля працягнулі ў інтэрнаце, прычым у кампаніі шматлікіх сяброў ПАП.

Менавіта ў штаб ПАП перайшла большасць «бухараўцаў» пасля таго, як надышоў дэдлайн здачы подпісаў, якія мы, на жаль, так і не сабралі. З іншага боку, травеньскія выбары на 203-й акрузе ў выніку не адбыліся праз нізкую яўку. Такі ж сумны пейзаж назіраўся амаль паўсюдна, што дазволіла гаранту асцярожна казаць пра магчымасць скасавання інстытута парламентарызму.

Гэтыя і іншыя аўтарытарныя тэндэнцыі пачалі закладаць падставы глабальнага палітычнага крызісу, які выбухнуў пратэстамі 1996-га. Пасля тых пратэстаў у жыцці было яшчэ шмат іншых эмацыйных падзей, аднак без усякіх прыступаў настальгіі даю зуб: для ўдзельнікаў бухараўскай кампаніі вясна 1995-га застанецца адным з самых запамінальных і фантастычных фрагментаў біяграфіі.

Апошні раз аўтар бачыў Ігара Бухарава напачатку нулявых. На той час, усё ж неяк скончыўшы БДУ, ён працаваў фатографам у Баранавічах.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Цэнтрабанк займецца сабакамі

Кіраўнік Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў працягвае нарошчваць культ алабаяў. Раней, як вядома, пра тых сабакаў ён напісаў кнігу, выхад якой краіна адзначала амаль тыдзень. І вось — новыя ініцыятывы Аркадагу (мянушка туркменскага гаранта). Ён даручыў Цэнтральнаму банку Туркменістана, а таксама групе іншых больш дробных банкаў стаць сузаснавальнікамі гаспадарчага таварыства «Туркменскі алабай». «Гэта яшчэ адзін канкрэтны прыклад таго, якое значэнне надаецца іх гадаванню і правільнай падрыхтоўцы, захаванню і развіццю іх лепшых, выбітных чыстапародных якасцяў, далейшай папулярызацыі ў свеце нашага нацыянальнага здабытку», — сказаў Бердымухамедаў. Верагодна, наступным крокам будзе замацаванне сабакі ў манументальным мастацтве. 6 лістапада кіраўніку краіны былі прадстаўленыя праекты аб'ектаў, запланаваных да здачы ў эксплуатацыю ў 2020 годзе. Сярод іх — велізарная скульптура алабая. Адначасова Бердымухамедаў праявіў сябе як скульптар, выявіўшы, што ў мануменце «слаба адлюстраваныя рысы, уласцівыя гэтай славутай пародзе». Скульптары паабяцалі ўлічыць яго парады.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ЗША. 60 гадоў «корбутаманіі»

Некаторыя выданні на Захадзе адзначылі 60-ю гадавіну пачатку так званай «корбутаманіі» — буму папулярнасці беларускай гімнасткі Вольгі Корбут. У 1969-м ва ўзросце 15 гадоў яна прыйшла ў вялікі спорт, каб праз тры гады стаць героем алімпіяды ў Мюнхене. Такія асабістыя якасці дзяўчынкі, як непасрэднасць, бунтарскі характар і прыгажосць, выклікалі на Захадзе сапраўдны выбух моды на жаночую гімнастыку. Па ўсім свеце ствараліся фан-клубы Вольгі. Каб патлумачыць сімпатыі амерыканцаў да «маладой камуністкі», правая прэса сцвярджала, што «ў Штатах Вольгу так моцна любяць за тое, што яна падобная да саміх амерыканцаў». Сярод фанатаў Вольгі былі шматлікія палітыкі, у тым ліку прэзідэнт Рычард Ніксан, які даў ёй асабістую аўдыенцыю ў Белым доме. Савецкае кіраўніцтва, хутчэй за ўсё, падтрымлівала псіхоз вакол Корбут, паколькі гэта дазваляла надаць рэжыму больш гуманістычны характар. З іншага боку, праблем з дзяўчынкай таксама хапала. Корбут неаднаразова парушала правілы знаходжання грамадзяніна СССР на Захадзе — пакідала гатэль без дазволу, насіла на публіцы майку з рэкламай, падтрымлівала камунікацыю са сваімі фанатамі і гэтак далей. У 1977-м Корбут ва ўзросце 22 гадоў сышла са спорту ўжо будучы адным з жывых сімвалаў БССР.

**Паводле французскай прэсы**

### ЛАТВІЯ. Кебабы супраць нацыі

Дэпутат Сейма Латвіі ад праварадыкальнага Нацыянальнага блоку Яніс Домбрава пачаў кампанію супраць устаноў, які гандлююць кебабамі. На думку палітыка, такога кшталту пункты пагражаюць латышскай нацыі, паколькі сталі эканамічнай базай выжывання суполак імігрантаў з краін трэцяга свету, перш за ўсё Індыі і Пакістана. Пакістанцы і індусы трапляюць у Латвію як студэнты, аднак вучыцца не збіраюцца. Замест гэтага яны нелегальна працуюць у кропках грамадскага харчавання, шукаючы адначасова легальныя магчымасці запрасіць у Латвію сваякоў. У сувязі з гэтым дэпутат ад Нацыянальнага блоку паабяцаў распрацаваць заканадаўчыя ініцыятывы, што «акажуць уплыў на "студэнтаў" і прадпрыемствы, якія бяруць іх на працу». Глабальная мэта Домбрава — дамагчыся таго, каб «Латвія не была варотамі, праз якія могуць масава прыбываць імігранты з трэціх краін». Дэпутат ужо падлічыў, што для рэалізацыі гэтай задачы ў Латвіі трэба зачыніць прыкладна 800 кропак, дзе гандлююць кебабамі.

**Паводле латышскай прэсы**

### БРАЗІЛІЯ. Забаронена абдымацца!

У адным з маскоўскіх тэатраў знялі з праграмы спектакль «Чыпаліна», пабачыўшы ў ім крамольныя тэмы. Напрыклад, дамок кума Гарбуза можна зразумець як пародыю на расійскую іпатэку, арышт старога Чыпаліна за тое, што наступіў на нагу прынцу Лімону, — намёк на «балотную» або «маскоўскую справу». Значна далей пайшлі ў Бразіліі, дзе адміністрацыя прэзідэнта Балсанару адкрытым тэкстам забараніла любыя творчыя імпрэзы, што крытыкуюць дзеючу ўладу або лідараў вайсковай дыктатуры, якая панавала ў краіне ў 1969–1982 гадах. Пры гэтым словамі справа не абмежавалася. Днямі ў адзін з тэатраў Рыа-дэ-Жанэйра ўварвалася паліцыя, каб перапыніць дзіцячую пастаноўку пра выдуманую краіну, дзе забароненыя абдымкі. Прадстаўнікі ўлады пабачылі ў гэтым тонкую крытыку курсу Балсанару. Каментуючы інцыдэнт, гарант заявіў: «Мы не збіраемся нікога пераследаваць, але Бразілія змянілася. Гэта не цэнзура. Гэта захаванне хрысціянскіх каштоўнасцяў і выхаванне моладзі ў рэчышчы павагі інстытуту сям'і».

**Паводле брытанскай прэсы**

# Бунт у прэрыях

Алег НОВІКАЎ

**Геаграфія рэгіёнаў, якія патрабуюць суверэнітэту, імкліва пашыраецца: Шатландыя, Ганконг, Каталонія... Цяпер пра сваю незалежную дзяржаву задумаліся ў заходніх правінцыях Канады.**



Фота www.macleans.ca



Фота www.election.ctvnews.ca

Урад канадскай франкамоўнай правінцыі Квебек 9 лістапада прыняў гістарычнае рашэнне — дзяржаўныя паслугі ў рэгіёне, дзе 82 працэнты жыхароў з'яўляюцца франкафонамі, будуць надавацца выключна па-французску. Хаця чыноўнікі кажуць, што новая норма накіраваная на тое, каб прымусіць мігрантаў вучыць французскую мову, шмат хто з каментатараў пабачыў у гэтым чарговы крок Квебека ў бок незалежнасці.

Але цэнтр канадскага сепаратызму сёння знаходзіцца ў іншым месцы. У апошнія дні свет стаў сведкам рэнесансу руху за незалежнасць заходніх канадскіх правінцый (Альберта, Саскачэван, Манітоба, Брытанская Калумбія). Колькасць аматараў выхаду з Канады тут расце як на дражджах: ад 10 працэнтаў у Манітобе да 27 працэнтаў у Альберце. Адначасова паўстаў тэрмін Wexit — рух за выхад заходніх правінцый са складу краіны. Ужо створаная адпаведная палітычная партыя — Wexit Alberta.

Феномен Wexit галоўным чынам разглядаюць як рэакцыю тутэйшага грамадства на вынікі выбараў у федэральны парламент, якія прайшлі 18 кастрычніка. Дэпутацкую большасць у ім захавалі лібералы пад кіраўніцтвам Джасціна Трудо. На канадскім захадзе, дзе большасць галасавала за кансерватыўную апазіцыю, вынікі галасавання ўспрынялі вельмі балюча. Трудо вядомы як заўзяты змагар з кліматычнымі зменамі, што, на думку многіх, ставіць крыж на лакальных нафтагазавых праектах.

Прычым, гэта толькі кветачкі. Лібералы мараць да 2050 года ператварыць Канаду ў краіну, якая ўвогуле не прадукуе шкодных для атмасферы газаў, а гэта будзе мецъ адпаведныя наступствы для сыравіннай галіны.

Антыпатыя заходнікаў да Трудо — гэта амаль што фамільная рыса. Шмат хто памятае прэм'ерства П'ера Трудо — бацькі цяперашняга прэм'ера, які ў 1980-м падпарадкаваў «нафтанку» заходніх правінцый федэральнаму цэнтру. З тых часоў «трудафобія» стала адной з візітовак тутэйшай палітычнай культуры.

Згаданыя фактары абвастрыла так званая «заходняя фрустрацыя» — комплекс мясцовых жыхароў, што цэнтр ігнаруе іх інтарэсы, і ўвогуле не імкнецца іх зразумець. Гэта перакананне, паводле сацыялогіі, падзяляюць 56 працэнтаў насельніцтва заходніх правінцый. Трэба сказаць, што тэма — не выдумка культуролагаў. Дамінуючы на захадзе прыродны ландшафт — прэрыя, — выклікае ў абарыгенаў асаблівы светапогляд, не падобны да філасофіі жыхароў Таронта або Манрэалю. Хутчэй яго можна параўнаць з забабонамі жыхароў амерыканскага Захаду. Дарэчы, тую ж Альберту ў турыстычных гідах любяць называць «канадскім Тэхасам».

**Практычна ў кожнай правінцыі Канады ёсць сепаратысцкія групоўкі. Сваю (праўда, сатырычную) дзяржаву ў 1967 годзе абвясцілі нават мікраарэён у Таронта. Дзяржава мае пашпарты, каралеву, і нават армію**

Нарэшце, сепаратысцкія сантыменты падсілкоўвае эканамічная статыстыка, паводле якой заходнія рэгіёны даюць у федэральны бюджэт на парадак больш, чым атрымліваюць.

Застаецца дадаць, што сепаратызм на канадскім захадзе — не экзотыка. Прыкладна з 1930 года падчас выбараў гучаць прамовы пра тое, што жыхары Альберты — асобная ад канадцаў нацыя. Навіны з Квебеку, які пашырае свае паўнамоцтвы, заўжды выклікалі зайздрасць у некаторых палітыкаў. У правінцыі дзейнічае Партыя незалежнасці, якая, праўда, атрымлівае на выбарах мізэр.

Ці атрымаюць яны больш на хвалі цяперашняга сепаратысцкага ажыятажу? Перспектывы праекту пакуль незразумелыя. Складаецца ўражанне, што спікерамі Wexit з'яўляецца групоўка блогераў, што не маюць кансалідаванай палітычнай пазіцыі. Акрамя таго, тэму намагаюцца інструменталізаваць кансерватары. Кансерватыўны губернатар Альберты ўжо абвінаваціў Трудо ў тым, што яго палітыка выклікае рэгіянальны сепаратызм. Шмат у чым будучыня Wexit залежыць ад фармату кабінету, які павінны сфарміраваць лібералы.

У любым выпадку, наўрад ці Атава будзе спакойна назіраць за тым, што адбываецца на захадзе краіны. У канадскім Кабміне заявілі пра рашучы намер змагацца за адзінства краіны. «Канадцы ў Альберце і Саскачэване — ведайце, што вы важная частка нашай вялікай краіны. Давайце ўсе разам працаваць, каб аб'яднаць яе», — заявіў прэм'ер. Саюзнікамі лібералаў у барацьбе за адзінства, відавочна, стане вялікі сегмент грамадзянскіх ініцыятыў — эколагі, феміністкі, індзейскія арганізацыі, якія традыцыйна крытыкуюць энергетычныя праекты, і гэтак далей.

Зрэшты, Атава павінна быць заўжды гатовая да падобных выклікаў. Практычна ў кожнай правінцыі Канады ёсць сепаратысцкія групоўкі. Сваю (праўда, сатырычную) дзяржаву ў 1967 годзе абвясцілі нават мікраарэён у Таронта. Дзяржава мае пашпарты, каралеву, і нават армію, якая складаецца з дзяцей да 14 гадоў і ўзброеная паветранымі балонікамі.


Фота www.meduza.io

# Справа Напалеона

Алег НОВІКАЎ

**Забойства няшчаснай 24-гадовай дзяўчыны ў Санкт-Пецярбургу дацэнтам-гісторыкам Алегам Сакаловым абрастае новымі дэталямі. Цяпер у гэтай гісторыі нечакана з'явіўся палітычны складнік.**

Немалады дацэнт-рэканструктар, які лічыць сябе Напалеонам, застрэліў маладую каханку. Раздзяліўшы на фрагменты цела сваёй ахвяры, ён скідаў іх па частках у раку. Пасля чаго, па ўласных словах, збіраўся публічна пакончыць з сабою ў касцюме імператара Банапарта. Падобны сюжэт, як пішуць у сеціве, адназначна натхніў бы Дастаеўскага засесці за раман, на старонках якога пісьменнік грунтоўна пакапаўся б у глыбінях чалавечай душы.

Але Фёдара Міхайлавіча з намі няма. Таму застаецца задавольвацца каментарамі без асаблівага філасофскага падтэксту. Пакуль учынак дацэнта Сакалова тлумачаць тэрмінамі псіхічнай медыцыны. Ёсць такія, якія бачаць тут «бытавуху». Некаторыя (але іх няшмат) дапускаюць, што мела месца забойства ў стане афекту. Нарэшце, іншыя спрабуюць расцэньваць забойства ў Піцеры праз прызму палітычнай павесткі.

Напрыклад, па Сакалову катком прайшлася ліберальная грамадскасць. Гэта не дзіўна, паколькі Сакалоў, як высветлілася, быў адным з кіраўнікоў Расійскага ваенна-гістарычнага таварыства (РВИО) — аднаго з бастыёнаў крамлёўскага бачання і трактоўкі гісторыі. Дарэчы, учарашнія сябры Сакалова па РВИО адракліся ад яго з хуткасцю гуку. Акрамя таго, дацэнт-гісторык быў жаданым госцем на ютуб-канале Дзмітрыя Пучкова (Гобліна), папулярнага сярод праціўнікаў ліберальных трансфармацый.

Некаторыя ліберальныя публіцысты пабачылі ва ўчынку Сакалова не менш як «жудасную алюзію на будучыню краіны». На думку выдання Kolibri Press, эліта складаецца з такіх жа, як гісторык, маньякаў «з комплексамі Напалеона, якія могуць стварыць тое ж самае, што і Сакалоў але ў маштабах дзяржавы, калі ў іх канчаткова сатрэцца мяжа паміж ролевай гульнёю і жыццём».

Узгадалі пра тое, што раней нехта з чыноўнікаў маскоўскай мэрыі дапамог Сакалову замяць справу, калі іншая студэнтка абвінаваціла яго ў неэтычных паводзінах. Лаяльнасць Сакалова на адрас рэжыму дала падставу Міхаілу Святлову, аднаму з лідараў лібералаў, катэгарычна заявіць: «Даўно зразумела, што пуцінскі рэжым могуць абараняць толькі псіхапаты».

Афіцыёз на гэтае і падобныя выказванні адрэагаваў сіметрычна — праўладнае выданне «Взгляд» нагадала імёны актывістаў антыпуцінскай апазіцыі, якія былі фігурантамі скандалаў на сексуальнай глебе.

**На думку некаторых, эліта складаецца з такіх жа, як гісторык, маньякаў «з комплексамі Напалеона, якія могуць стварыць тое ж самае, што і Сакалоў, але ў маштабах дзяржавы, калі ў іх канчаткова сатрэцца мяжа паміж ролевай гульнёю і жыццём»**

Успомнілі, напрыклад, што ў 2013 годзе вядомы ліберальны актывіст і рэстаратар Аляксей Кабанаў забіў і нарэзаў на часткі сваю жонку ў той жа кватэры, дзе мірна спалі і нічога не падазравалі іх дзеці. Каб падкрэсліць сістэмнасць дэвіяцый у прадстаўнікоў апазіцыі, прыгадалі Уладзіміра Букоўскага — легендарнага савецкага дысідэнта, якога ўжо ў эміграцыі брытанская пракуратура звініла на педафіліі.

Свае «пяць капеек» уставілі праваслаўныя патрыёты. Дзяржаўнікі накшталт блогера Ягора Халмагорава на блакітным воку вінавацяць у злачынстве Сакалова разлажэнне патрыярхальных нораваў, якое пачалося яшчэ ў часы бязбожнай Вялікай французскай рэвалюцыі (!).

Дыяметральна іншы погляд маюць расійскія левыя. На іх думку, Сакалоў, наадварот, якраз і стаў ахвярай прапаганды імперскай спадчыны, засвоіў манеры «Высакароднага Дамастрою». «Атаясамліваючы сябе з рэзідэнтамі Зімовага палаца, ён паступова засвойваў класавыя погляды, норавы і манеры паводзін арыстакратаў у хатнім побыце», — піша блогер Аляксандр Каралевіч. А гэтыя манеры былі вельмі характэрныя, пра што не вельмі любяць успамінаць прыхільнікі храбусцення французскіх булак. Каралевіч нагадвае, што, «напрыклад, вялікі князь Канстанцін Паўлавіч — без пяці хвілін кіраўнік Расійскай імперыі — гвалтаваў кабет, якія праязджалі пад вокнамі яго палаца, і страляў з пісталета па сваёй жонцы, пасадзіўшы яе ў кітайскую вазу».

Ці існаваў палітычны фактар ва ўчынках Сакалова і ці будзе яго справа мець палітычны рэзананс? Свой погляд прапануе маскоўскі журналіст **Дзмітрый Кастэнка**:

*— У выпадку Сакалова злачынства звязваецца, хутчэй, з яго асабістымі якасцямі, з яго з псіхічным здароўем, чым з палітычнымі поглядамі. Таму пакуль адзіны палітычны вынік — прамоўшэн новай кнігі Яўгена Панасенкава — скандальнага гісторыка, які напісаў супярэчлівую кнігу. Панасенкаў быў асабістым ворагам Сакалова, і запланаваны выхад яго новай кнігі пра Вялікую Айчынную вайну дакладна прыцягне ўвагу. А паколькі Панасенкаў аспрэчвае пуцінскую версію ВАВ, можна чакаць буйных дэбатаў з палітычнай афарбоўкай.*

*З іншага боку, шмат залежыць ад вынікаў следства і суда на Сакаловым. Калі суд схіліцца да таго, што забойства адбылася ў стане афекту, то забойца можа атрымаць каля 3–4 гадоў зняволення. З улікам таго, што ў нас за кінутую ў паліцэйскага пляшку можна атрымаць тры гады, такі вердыкт дакладна справакуе грамадскае абурэнне.*

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ігар Дадон



Прэзідэнт Малдовы, лідар сацыялістаў (PSM), падаецца, вырашыў пахаваць унікальны для постсавецкай прасторы альянс, калі прамаскоўскія сацыялісты блакуюцца з праеўрапейскім блокам ACUM у рамках аднаго кабінета.

Партыя сацыялістаў унесла ў парламент ініцыятыву пра вотум недаверу ўраду, які ўзначальвае Мая Санду. Гэта здарылася пасля таго, як урад дэлегаваў прэм'ер-міністру частку паўнамоцтваў у працэсе адбору кандыдата на пасаду генпракурора. Прадстаўнікі ACUM, у сваю чаргу, лічаць, што сацыялісты нацэлены на перападпарадкаванне сілавых і палітычных інстытутаў з дапамогай Партыі дэмакратаў — структуры алігарха Улада Плахатнюка.

Канфлікт набірае моц. Палітолагі прапануюць тры сцэнары яго развязкі. Першы — адстаўка ўрада і новыя перамовы паміж фракцыямі наконт стварэння кааліцыі за выключэннем асобных фігур. Другі сцэнар — адстаўка ўрада і абвяшчэнне датэрміновых парламенцкіх выбараў. Гэты варыянт падабаецца многім сацыялістам у кантэксце нядаўняй перамогі іх кандыдата на выбарах сталічнага мэра. Перамога разглядаецца як радыкальная змена настрояў у грамадстве, паколькі традыцыйна Кішынёў абіраў прадстаўніка правых сілаў. Ёсць і трэці сцэнар — стварэнне мінарытарнага ўраду сацыялістаў з сітуатыўнай апорай на дэмакратаў.

Пры любым з трох сцэнараў палітычную сістэму Малдовы чакае моцны крызіс. Паведамляюць таксама, што міжнародныя партнёры імкнуцца ўрэгуляваць унутрыпалітычную сітуацыю, аднак усё выглядае на тое, што кропка незвароту ўжо пройдзеная.

### Найджэл Фарадж



Лідар Партыі Брэксіту (Brexit Party), магчыма, вызначыў вынікі пазатэрміновых парламенцкіх выбараў, якія павінны адбыцца ў Вялікабрытаніі 12 снежня. Прынамсі, яго заява ад 11 лістапада можа моцна паўплываць на фінальны вынік.

Фарадж паведаміў, што яго партыя не будзе выстаўляць сваіх кандыдатаў на 317 выбарчых участках, дзе галоўным канкурэнтам Brexit Party выступаюць прадстаўнікі партыі кансерватараў. На думку Фараджа, такі крок дапаможа стварыць у новым парламенце сталую дэпутацкую большасць, якая выступае за выхад краіны са складу ЕС — асноўная мэта Brexit Party. Акрамя таго манеўр Фараджа скароціць прадстаўніцтва дэпутатаў ад лейбарыстаў і лібералаў.

З іншага боку, шмат яшчэ няяснага. Прэса піша, што адна з фракцый Brexit Party выступіла супраць ініцыятывы Фараджа. Завочная капітуляцыя, маўляў, выкліча расчараванне сярод шараговых партактывістаў. Акрамя таго, парламент з засіллем аматараў Brexit не азначае бестурботнай будучыні для Борыса Джонсана — цяперашняга лідара кансерватараў і патэнцыйнага прэм'ера. Запуск працэсу эвакуацыі краіны са складу ЕС дакладна выклікае адмоўную рэакцыю ў Шатландыі, урад якой абяцае абвясціць новы плебісцыт пра незалежнасць. Джонсан абяцае, што ніякіх рэферэндумаў на гэты конт ён не дапусціць.

### Олаф Шольц і Клара Гейві



Актывісты нямецкай партыі сацыял-дэмакратаў (SPD) сталі адназначнымі фаварытамі ўнутрыпартыйных выбараў новага кіраўніцтва партыі.

Хаця канчатковыя вынікі галасавання будуць вядомыя толькі 30 лістапада, прэса ўжо цяпер называе пару пераможцамі і цікавіцца, што зменіцца ў другой па папулярнасці партыі краіны?

Відавочна, што перш за ўсё новым сустаршыням трэба будзе думаць, як вярнуць давер да структуры. Апошнім часам назіраецца сталае падзенне рэйтынгу эсдэкаў. Тандэм ужо заявіў, што, у выпадку перамогі, будзе дамагацца пераарыентацыі на традыцыйныя каштоўнасці левага руху. Такая стратэгія, як піша прэса, паставіць партыю на шлях канфлікту з кансерватарамі Ангелы Меркель у рамках урадавай кааліцыі. Гэты сцэнар пагражае крызісам ураду і датэрміновымі выбарамі.

З іншага боку, папярэднія правадыры SPD таксама абяцалі вярнуць партыі імідж паслядоўнай левай сілы, аднак асаблівых наступстваў тыя абяцанні не мелі. Застаецца дадаць, што ў зоне турбулентнасці знаходзіцца і кіруючая партыя хрысціянскіх дэмакратаў Ангелы Меркель. Пасля апошніх правалаў на шэрагу зямельных выбараў Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр — пераемніца Меркель, — стала аб'ектам крытыкі з боку партайгеносэ. Фрыдрых Мерц, лідар правай фракцыі, намагаецца прымусіць Меркель перагледзець кандыдатуру пераемніка на сваю карысць.







Марцін Вайцяхоўскі (злева) ля Кабыляцкага камня



# Перайшоў мяжу, каб пабачыцца з роднымі. Праз дзве гадзіны трапіў у чорны варанок

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У Кабыляках, што пад Оршай, адкрылі і асвяцілі помнік палякам, якіх падчас сталінскага тэрору звозілі сюды на расстрэл з усёй Беларусі.**




Новы помнік рэпрэсаваным палякам (справа)

## Тры турмы і ніводнага тэатра

Удзел ва ўшанаванні памяці забітых узялі нашчадкі рэпрэсаваных, прадстаўнікі Саюза палякаў у Беларусі, гісторыкі. Да працэсіі далучыўся і першы намеснік амбасадара Польшчы ў Беларусі **Марцін Вайцяхоўскі.**

Раніцай у касцёле святога Юзафа адбылася жалобная імша за спачын душ памерлых. Пасля служэння працэсія рушыла на месца сталінскіх расстрэлаў — Кабыляцкую гару.

Шлях туды пралягаў міма езуіцкага калегіума. У свой час Орша была вядомая тым, што тут былі ажно тры турмы і ніводнага тэатра. Адна з самых страшных турмаў месцілася якраз у мурах калегіума. Спачатку тут была царская вязніца, потым турма НКУС. У ёй вязні (сярод іх быў і бацька вядомага расійскага гумарыста **Яфіма Шыфрына Залман Шыфрын,** асуджаны як польскі шпіён) цярпелі невыносныя пакаранні, адсюль людзей адпраўлялі на Калыму, тут выносілі і прыводзілі ў выкананне смяротныя прысуды. Цяпер у калегіуме месціцца краязнаўчы музей, дзе няма экспазіцыі, прысвечанай тым страшным часам. Дарэчы, турма стаяла на самым пачатку вуліцы Леніна, што дало нагоду сумным жартачкам пра тое, што камунізм у горадзе пачынаецца са зняволення.

## Ад лаяльнасці да генацыду

Летась мясцовыя актывісты дамагліся ад Аршанскага выканкаму ўсталявання на Кабыляцкім камні памятнай шыльды з надпісам «Месца памяці і смутку» на чатырох мовах: беларускай, рускай, ідыш і... англійскай. Хаця замест апошняй павінна была быць польская. Па-першае, менавіта гэтыя чатыры мовы разам з польскай былі дзяржаўнымі ў 1920–1930-я гады ў БССР. Па-другое, колькасць расстраляных палякаў, паводле вядомых звестак, была значна большая, чым яўрэяў і рускіх. Але выканкам гэтыя факты, як і патрабаванні нашчадкаў расстраляных, праігнараваў ды замяніў польскую мову на англійскую, хаця сярод рэпрэсаваных у 1937–1938 гадах не было ніводнага англічаніна.

Паводле даследаванняў спіса расстраляных у Оршы, з 1750 чалавек каля 1140 склалі беларусы, палякі былі другой па велічыні нацыянальнай групай — звыш 500 чалавек (29%). Але калі Аршанскі выканкам не пажадаў лічыцца з гісторыяй, грамадскасць узяла справу ў свае рукі, і ў Кабыляках з'явіўся асобны помнік забітым падчас сталінскага тэрору палякам.

Даследчык савецкіх рэпрэсій 1920–1950-х гадоў **Ігар Кузняцоў** пацвярджае, што на тэрыторыі БССР у 1937–1938 гадах праводзіліся антыпольскія аперацыі. Пасля 1921 года, калі мяжа падзяліла Беларусь на Заходнюю і Усходнюю, было шмат выпадкаў, калі з тых ці іншых прычын палякі запісваліся беларусамі і наадварот.

Спачатку Саветы спрабавалі дамагчыся лаяльнасці палякаў, каб тыя прыязджалі ў СССР і тут працавалі. Ва Украіне і Беларусі ствараліся нават асобныя польскія раёны, дзе справаводства вялося па-польску, распавядае нашчадак рэпрэсаваных з Оршы, даследчык **Ігар Станкевіч.** Былі і польскія сельсаветы — продак Ігара Станкевіча **Іван Станкевіч** жыў у такой польскай вёсцы Сідараўка, што пад Талачынам.

Але для савецкай улады ўсе гэтыя захады аказаліся правальнымі. Палякі шанавалі сваё шляхецкае паходжанне, не хацелі ісці ў калгасы, затое ўпарта хадзілі ў касцёлы.

Такое становішча неўзабаве прывяло да антыпольскіх аперацый. Тыя, на каго падала хоць дробка падазрэння пра датычнасць да Польшчы, абвяшчаліся ворагамі і падлягалі рэпрэсіям. І калі напачатку карныя органы глядзелі на ўказаную ў анкеце нацыянальнасць, потым вызначалі яе па прозвішчы, то ў хуткім часе ўжо і на гэта перасталі звяртаць увагу — проста абвінавачвалі ў шпіянажы на карысць Польшчы... Такім чынам, паводле звестак з расійскага архіву ФСБ, падчас польскіх аперацый былі расстраляныя 111 тысяч палякаў (80% ад усіх рэпрэсаваных гэтай нацыянальнасці). У БССР НКУС расстраляла 19 250 асоб польскай нацыянальнасці, пры гэтым сапраўдных палякаў сярод іх было прыкладна 11,5 тысячы, астатнія — беларусы, украінцы, яўрэі, рускія. Бо трэба было выконваць план па расстрэлах, і ахвяраў дабіралі, ужо не гледзячы на паходжанне...

Але і гэтыя лічбы не адпавядаюць рэчаіснасці, лічыць Ігар Кузняцоў. На яго думку, яны заніжаны ўдвая. З міжнароднага пункту гледжання такія знішчэнні трапляюць пад азначэнне генацыду.

## Кабылякі, Катынь, Курапаты — дзе знайшлі спачын польскія афіцэры?

Кабылякі адкрыліся раней за мінскія Курапаты. Гэта адбылося ў 1982 годзе, калі падчас пракладання чыгункі былі знойдзеныя чалавечыя парэшткі. Следства ўстанавіла, што гэта — рэха сталінскіх рэпрэсій.

У 1990 годзе пад ціскам грамадскасці выканкам усталяваў у Кабыляках першы памятны знак і мемарыяльную шыльду. Але пасля 1994 года ўлады пра гэтае месца забыліся, ім апекаваліся толькі неабыякавыя аршанцы.

Сітуацыя змянілася зусім нядаўна, у 2017 годзе, калі Ігар Станкевіч прапанаваў сваякам рэпрэсаваных не чакаць падарункаў ад улады, а пачаць самастойна ствараць мемарыял, ставячы ў Кабыляках крыжы, помнікі, мацуючы памятныя шыльды. І за два гады расстрэльны лесператварыўся ў месца памяці.

Ігар Станкевіч мае дзве версіі таго, чаму мясцовыя ўлады пазбягаюць згадак пра рэпрэсіі супраць палякаў на Аршаншчыне. Адна з іх звязаная з выказваннямі Лукашэнкі ў 2011 годзе аб тым, што ў Беларусі не быў расстраляны ніводзін паляк.

Другая версія звязаная з мясцовасцю Асінторф. Ёсць некалькі ўспамінаў пра польскіх ваеннапалонных у гэтых мясцінах. Здавалася б, адкуль? Ігар Станкевіч прыводзіць сведчанні старажылаў пра тое, што палонныя польскія афіцэры будавалі чыгунку ад Асінторфа да станцыі Асінаўка. Потым іх маглі расстраляць — у Катыні, у Оршы, у Мінску... Але дакладных звестак гісторыя пакуль што не дае.

Тым не менш гэта не замінае людзям ушаноўваць памяць забітых.

*«Мы памятаем пра рэпрэсіі. У Польшчы часта кажуць, што той, хто памятае пра мінулае, мае перад сабой будучыню. Таму мы гэта робім. Кабылякі — гэта агульнае месца, дзе ляжаць ахвяры розных нацыянальнасцяў. Мы не падзяляем іх паводле нацыянальнасці, а молімся за ўсіх іх. Гэта сведчанне гісторыі і сведчанне будучыні. Мы нічога не можам з гэтым зрабіць, а толькі маліцца за ахвяраў і катаў. І мы можам памятаць, што гэта не мусіць больш паўтарыцца»,* — прамовіў Марцін Вайцяхоўскі, які ўсклаў вянок да Кабыляцкага камня.

## Жывым — пакаянне, мёртвым — памяць

Новы памятны знак прысвечаны памяці палякаў, якіх звозілі сюды на смерць з усіх раёнаў Беларусі, пераважна památ межных. Так, дзеда і двух братоў спадарыні Марыны — **Іосіфа, Уладзіміра і Івана Скарабагатых** — прывезлі ў Кабылякі з Дзяржынскага раёна і тут расстралялі, абвінаваціўшы ў шпіянажы на карысць Польшчы.

*«Пра тое, што дзеда расстралялі, я даведалася дзякуючы* ***Таццяне Працька.*** *Раней бабулі прыйшла папера, што ён загінуў у 1943 годзе ад цырозу печані»,* — распавяла жанчына.

Цяпер яна не толькі ўшаноўвае памяць сваіх забітых продкаў, а яшчэ і стараецца вяртаць імёны рэпрэсаваных літаратараў. Так, выдавецтва «Лімарыюс», дзе яна працуе, выдала двухтомнік **Ларысы Геніюш, Уладзіміра Дубоўкі** і кнігу пра **Алеся Дудара.**

Надзея Іосіфаўна не памятае свайго бацьку **Іосіфа Несяровіча,** калі яго забралі, ёй было 1,5 года. Праз два месяцы яго расстралялі як ворага народа.

*«Калі яго забіралі, ён сказаў маме, што замест сябе пакідае ёй дачку. Цяжка жылі без бацькі. Калі б ён быў з намі, жыццё склалася б інакш»,* — гаворыць жанчына.

*«Яго забралі напачатку 1930-х, ён сядзеў у Горках. Перад расстрэлам ён нелегальна перайшоў мяжу з Польшчай, каб пабачыцца з роднымі. Ён крыху пабыў і пайшоў, а праз дзве гадзіны яго забраў чорны варанок. Родныя не ведалі, што з ім, і бабці параілі падаць заяву на аліменты, каб даведацца. Прыйшоў адказ, што яму далі 10 гадоў без права перапіскі. Бабуля здагадалася, што ён не вернецца».*

*«Мой прадзед жыў у вёсцы Гайнаўка ў Лагойскім раёне. Ён меў трох дзяцей, адным з іх быў мой дзед, якому на момант арышту бацькі было чатыры гады. Арыштавалі яго ў жніўні 1937 года, а ўжо ў снежні расстралялі ў Оршы»,* — кажа праўнук **Станіслава Кузьміцкага,** які ў памяць аб продку прывёз у Кабылякі шыльду.

Ён і іншыя сваякі рэпрэсаваных замацавалі таблічкі на дрэвах, запалілі свечкі, паклалі кветкі. Ксёндз акрапіў святой вадой новы помнік. Такім чынам напярэдадні Дня памяці ахвяр савецкіх рэпрэсій і Дзядоў у Кабыляках з'явіліся чарговыя памяткі пра страшныя падзеі мінуўшчыны, з часу якіх прайшло ўжо больш як 80 гадоў. Але для справядлівасці няма азначэння «позна». Яно існуе толькі ў свеце жывых.

# Савецкі шпіянаж на «мяжы цывілізацый»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Дакументы польскіх выведавальных органаў 1920–1930-х гадоў, якія захоўваюцца ў польскіх архівах, даказваюць, што ў даваенны час на тэрыторыі Заходняй Беларусі актыўна дзейнічалі савецкія выведнікі і дыверсанты. Яны стваралі шпіёнскія сеткі, вербавалі агентаў, збіралі інфармацыю, шукалі інфарматараў. Карацей, рыхтавалі глебу для арганізацыі «рэвалюцыйнай сітуацыі».**

## Небяспечны мінскі напрамак

У лютым 1930 года на стол кіраўніцтва Другога аддзела Генеральнага штаба Войска Польскага лягла аператыўная справаздача выведнікаў 3-й карпуснай акругі Войска Польскага з Гродна. У дакуменце аналізавалася дзейнасць савецкай выведкі на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай.

«Мінскі калідор з'яўляецца галоўным памежным пераходам для эмісараў і агентаў савецкай выведкі. На гэтым участку ключавую ролю адыгрывае мястэчка Крайск, дзе знаходзіўся "спец" мінскага ДПУ Пінкус. На польскай тэрыторыі важным месцам з'яўляецца Даўгінаў. Там для сустрэчы "важных асоб" з Саўдзэпіі ёсць гатэль, а для звычайных бальшавіцкіх агентаў выкарыстоўваецца рэстаран побач з рынкавай плошчай. Яго ўласнікам з'яўляецца былы царскі афіцэр. З Даўгінава тыя, хто мае "добрыя" дакументы, накіроўваюцца ў мястэчка Касцяневічы, а адтуль на чыгуначную станцыю Крывічы, дзе сядаюць у цягнік і едуць у Маладзечна, адкуль накіроўваюцца ў розныя раёны краіны. Тыя, хто не мае патрэбных дакументаў, накіроўваюцца ў вёску Глебёнка, дзе чакаюць некалькі дзён на атрыманне папераў», — адзначалася ў дакуменце.

Таксама ў справаздачы падкрэслівалася, што ў Вілейцы знаходзілася «лейка» КПЗБ, спецыяльная падпольная арганізацыя, якая рыхтавала польскія дакументы для нелегалаў. Савецкія агенты з Мінска таксама актыўна накіроўваліся ў Маладзечна, дзе збіралі інфармацыю пра польскія вайсковыя гарнізоны ў горадзе і на мяжы з БССР.

Другі, па меркаванні польскіх выведнікаў, калідор, праз які савецкія агенты «ішлі» на тэрыторыю Другой Рэчы Паспалітай, знаходзіўся пад Заслаўем. Тут бальшавіцкія дыверсанты пераходзілі кардон і накіроўваліся ў Аляхновічы. «Лейка» на гэтым «калідоры» знаходзілася ў рэстаране мястэчка Лебедзеў. У маёнтку Лешна, што было побач, размяшчалася яўка, уласнікам якой быў Томаш Саковіч. Перакідка польскіх камуністаў з Польшчы ў БССР адбывалася праз акно на мяжы.

«Пераход з Польшчы ў СССР на "мінскім напрамку" адбываецца наступным чынам. Агент праз Маладзечна едзе ў Вілейку, адкуль яго забірае "праважаты" з ліку савецкага памежнага апарату і накіроўвае ў ваколіцы Даўгінава на самую мяжу», — пісалася ў згаданым дакуменце. Польскія выведнікі з Варшавы рэкамендавалі сваім калегам на месцы як мага хутчэй узяць пад кантроль бальшавіцкія «маліны» і яўкі на мяжы з БССР.

## Напярэдадні вялікіх выпрабаванняў

Дзейнасць савецкіх шпіёнаў на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай асабліва ўзмацнілася ў канцы 1930-х гадоў. Нічога дзіўнага: Еўропа крочыла да жудаснага вайсковага канфлікту. У міжваенны час менавіта Польшча лічылася найбольш верагодным праціўнікам Савецкага Саюза ў будучай вайне. У гэтай сітуацыі Крамлю патрэбны былі дакладныя выведвальныя дадзеныя пра стан польскага войска.

1 кастрычніка 1938 года ў Валожыне супрацоўнікамі польскай паліцыі быў затрыманы грамадзянін Польшчы Уладзімеж Чаеўскі, прапісаны ў вёсцы Мыслевічы Маладзечанскага павета. Падчасператрусу пры затрыманым былі знойдзеныя савецкі вайсковы компас, 1401 польскі злоты і 65 грошаў, два лісты на рускай мове, некалькі здымкаў, польскі ўнутраны пашпарт і вайсковы білет. На допыце, які адбываўся ў канцыляры «пляцуўкі» КАП №4 у Маладзечне, мужчына прызнаўся, што ён савецкі шпіён Юрый Макарэвіч, грамадзянін СССР, прапісаны ў Мінску.

Аказалася, што агент нарадзіўся ў Варшаве, але потым разам з бацькамі пераехаў у Палтаву. У 1931 годзе будучы шпіён паступіў у Сельскагаспадарчы інстытут у Растове-на-Доне, дзе атрымаў дыплом інжынера-механіка. Пасля гэтага Юрый пераехаў у Гомель, дзе працаваў на «Гомсельмашы». 8 кастрычніка 1937 года Макарэвіча выклікалі ў ваенкамат у Гомелі, дзе... прапанавалі стаць выведнікам на тэрыторыі Польшчы. Інжынер пагадзіўся, падпісаў «абавязацельства аб супрацы» і атрымаў псеўданім «Малыш».



Савецкі парад ля Дома ураду, 1930-я гады





Польскі ўнутраны пашпарт, знойдзены пры Макарэвічу



Юрый Макарэвіч

У лютым 1938 года з інжынерам сустрэўся чалавек у форме савецкага вайсковага лётчыка, які накіраваў агента на курсы польскай мовы. Акрамя гэтага Макарэвічу загадалі 14 студзеня 1938 года прыбыць у Мінск у Другі савецкі гатэль на вуліцы Камсамольскай. Там з ім сустрэўся афіцэр у мундзіры маёра РСЧА, які перадаў інжынеру інструкцыі і даведку для кіраўніцтва «Гомсельмашу», што спецыяліст накіроўваецца на спецкурсы.

Дарэчы, падчас размовы з агентам савецкі вайсковец асабліва цікавіўся тым, як чалавек, які нарадзіўся ў Варшаве, апынуўся ў беларускім Гомелі.

## Дыверсійная школа... у Доме ўраду

У Мінску агент «Малыш» размясціўся ў брата, які жыў на вуліцы Чырвонаармейскай, 48. 11 лютага 1938 года Макарэвічу загадалі накіравацца на вуліцу Савецкую ў Дом ураду і знайсці там пакой №543 на пятым паверсе. Там... савецкая выведка рыхтавала агентаў для працы на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай!

Макарэвіч атрымаў пропуск на ўваход у галоўны ўрадавы будынак савецкай Беларусі (выдадзены на бланку Саўнаркаму), і з гэтага моманту пачалася яго выведвальная паўгадавая падрыхтоўка. Сярод прадметаў, якія вывучалі дыверсанты, былі польская мова і гісторыя, дзейнасць польскай выведкі і контрвыведкі, тапаніміка, асаблівасці дакументазвароту ў Польшчы, практычныя навыкі фатаграфавання аб'ектаў (агент карыстаўся фотаапаратам «Кодак»), гісторыя камуністычнай партыі. Асаблівую ўвагу надавалі арыентаробўцы на мясцовасці: на практычных занятках агент на компасе павінен быў удзень прайсці праз лес у кірунку Оршы, а ноччу — у кірунку Слуцка.

Паралельна Макарэвіч чытаў шмат польскіх перыядычных выданняў. Яму прывозілі свежыя выпускі «Віленскага кур'ера» і іншыя польскія газеты і часопісы. Выведнік «праглынаў» «Агнём і мячом» Генрыха Сянкевіча і «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча.

Пазней з «Малышом» пачалі працаваць індывідуальна: вучылі легендзе, з якой ён павінен быў дзейнічаць на польскай тэрыторыі. Паводле апошняй, хлопец быў «падзёншчыкам», і з-за беднасці бацькі вымушаны быў шукаць працу ў вёсках і мястэчках. Падчас дзейнасці на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай Макарэвіч павінен быў «вывучаць» раёны: Вялікіх і Малых Бакштаў (дыслакацыя падраздзяленняў КАП), чыгуначнай станцыі Багданава, мястэчка Вішнева. Кожны месяц падчас заняткаў агент «Малыш» атрымліваў 600 савецкіх рублёў.

У траўні 1938 года савецкі агент у суправаджэнні «адказных таварышаў» прыехаў на машыне на савецка-польскую мяжу ў раёне Заслаўя, дзе яго «ўвялі ў курс справы», распавялі пра дзейнасць польскай памежнай аховы, пра жыццё на мяжы, «калідоры» і «вокны». Знаёміўся з мяжой агент у раёне памежнага слупа №603.

## Канец шпіёна

22 верасня 1938 года Макарэвічу загадалі ўвечары з'явіцца на Кальварыйскія могілкі. Там яго чакала машына, якая адвезла на савецкае памежнае КПП «Радашковічы» пад Заслаўем. Праз некалькі гадзін «Малыш» перайшоў польска-савецкую мяжу ў раёне памежнага слупа 603 і дабраўся да Валожына, дзе і трапіў у рукі польскай паліцыі.

Польскія выведнікі пачалі вывучаць лісты, якія меў пры сабе Макарэвіч. Аказалася, што адзін з іх быў адрасаваны супрацоўніцы пінскай гімназіі Надзеі Нелюбовіч-Тукальскай. Апошняя была ўдавой. Ёй належаў маёнтак Нінквічы коштам у 397 тысяч злотых. Жанчына таксама мела вялікую грашовую суму ў банку. Іншы ліст быў адрасаваны таксама няведнай жыхарцы Вільні Вользе Троцкай. У задачу «Малыша» ўваходзіла вярбоўка абедзвюх жанчын з мэтай выкарыстання іх для атрымання дадзеных пра польскія вайсковыя гарнізоны ў Пінску і Вільні.

Маці Надзеі Нелюбовіч і сястра Вольгі Троцкай жылі ў БССР і знаходзіліся пад наглядам НКУС. Агент «Малыш» павінен быў аплачваць паслугі жанчын-інфарматараў. Да таго ж Надзея Нелюбовіч-Тукальская павінна была сустрэць кур'ера з савецкага боку і выкарыстаць пароль: «Вам прывітанне ад Бэцці», — «Дзякуй, як жывуць дзеці?». Акрамя гэтага Макарэвіч і сам павінен быў збіраць выведвальныя дадзеныя аб дыслакацыі польскіх вайсковых часцей на тэрыторыі Заходняй Беларусі (пры гэтым яму рэкамендавалася звяртаць увагу на нумары, якія мелі польскія жаўнеры і афіцэры на пагонах). Вярнуцца ў БССР «Малыш» павінен быў 20 кастрычніка 1938 года.

За шпіёнскую дзейнасць на тэрыторыі Польшчы Юрый Макарэвіч быў асуджаны польскім судом. Што далей адбывалася з гэтым чалавекам, нам невядома. Хутчэй за ўсё, пасля 17 верасня 1939 года ён апынуўся на волі. Праўда, выкрыццё Макарэвіча польскай памежнай выведкай магло кепска адгукнуцца для шпіёна з Мінска.

У 1930-я гады такіх «выведнікаў» на тэрыторыі Заходняй Беларусі было вельмі шмат. Большасць з гэтых людзей станавілася закладнікамі сітуацыі і была паслухмянай зброяй у руках бальшавікоў.

**Фота з асабістага архіву Ігара Мельнікава**

# БагатаДата

**Ці ведаеце вы, што такое «дэбют Верасава»? І што аўтар гімну БССР пісаў лібрэта да операў ды балетаў? Пра гэта — у традыцыйным агглядзе.**

## 16 лістапада

**Міжнародны дзень талерантнасці.**

**1914.** У вёсцы Пятровічы Смалявіцкага раёна на Міншчыне нарадзіўся пісьменнік і перакладчык Язэп Семяжон (сапраўднае прозвішча — Семяжонаў). Перакладаў з болей як дзясятка моваў. У яго перакладах на беларускай мове пабачылі свет: «Кароль Лір» Шэкспіра, «Жанна д'Арк» Твэна, «Пан Тадэвуш» Міцкевіча, зборнікі вершаў Байрана, Бёрнса ды іншыя творы.

## 17 лістапада

**Дзень працаўнікоў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу ў Беларусі** (адзначаецца ў трэцюю нядзелю лістапада). **Міжнародныя дні студэнтаў і неданошаных дзяцей,** а таксама **Сусветны дзень памяці ахвяраў ДТЗ.**



**1574.** Заснавана друкарня Мамонічаў у Вільні — Пятром Мсціслаўцам на грошы магілёўскіх купцоў і грамадскіх дзеячаў ВКЛ Кузьмы ды Лукі Мамонічаў. Тут было выдадзена каля сотні кніг, у тым ліку рэлігійная літаратура і заканадаўчыя акты — «Псалтыр», Статут ВКЛ, «Трыбунал абывацелям Вялікага Княства Літоўскага». Фінансавалі друкарню таксама браты Зарэцкія. Ужо праз два гады паміж Мсціслаўцам і Мамонічамі ўзнік канфлікт. Паводле суду, друкарскае абсталяванне адыходзіла першаму, а кнігі — братам-фундатарам. У выніку друкарня зачынілася.

## 18 лістапада

**1979.** У Мінску памёр шахматыст Гаўрыла Верасаў, шасціразовы чэмпіён Беларусі. Аўтар сістэмы «Дэбют Верасава» (1. d4 d5 2. Кс3 Kf6 3. Сg5).

## 19 лістапада

**Дзень ракетных войскаў і артылерыі ў Беларусі,** а таксама **Міжнародны мужчынскі дзень, Дзень жаночага прадпрымальніцтва і Сусветны дзень прыбіральні.**

**1784.** У вёсцы Волька на польскім Падляшшы нарадзіўся славіст і багаслоў Міхал Баброўскі. Адзін з пачынальнікаў беларусазнаўства, першы скарыназнаўца. Адкрыў Супрасльскі кодэкс (ці рукапіс) — кананічны помнік раннеславянскай літаратуры XI стагоддзя.

## 20 лістапада

**Сусветныя дні дзіцяці і педыятра.**





**1934.** У Магілёве нарадзіўся шахматыст Леў Палугаеўскі. Двухразовы чэмпіён СССР.

## 21 лістапада

**Сусветныя дні тэлебачання, філасофіі і вітанняў.**

**1899.** У вёсцы Сялітранка Барысаўскага раёна на Міншчыне нарадзіўся пісьменнік і крытык Міхась Клімковіч. Першы старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў. Аўтар тэксту гімна БССР «Мы, беларусы», напісаў лібрэта да операў і балетаў «Князь-возера», «Кастусь Каліноўскі», «Апошні вечар на хутары». Дарэчы, гімнам кампазіцыя на верш Клімковіча і музыку Сакалоўскага была зацверджаная ў 1955 годзе, праз некалькі месяцаў пасля смерці аўтара тэксту.

## 22 лістапада

**Дзень сыноў.**

**1934.** У Новай Адэсе (Мікалаеўская вобласць Украіны) нарадзіўся паэт Анатоль Папярэчны, аўтар вершаў, на якія напісаныя многія папулярныя на постсавецкай прасторы песні. У тым ліку ў суаўтарстве з беларускімі кампазітарамі і якія выконвалі беларускія спевакі ці гурты. Напрыклад, «Белы бусел ляціць» ды «Алеся».

**1944.** У Мінску памёр пісьменнік Кузьма Чорны (сапраўднае імя — Мікалай Раманоўскі).



Пры канцы 1920-х гадоў — старшыня літаратурнага аб'яднання «Узвышша». У 1938 годзе быў арыштаваны і 8 месяцаў прасядзеў у турме. Вядомыя кнігі: «Пошукі будучыні», «Млечны шлях», «Трэцяе пакаленне», «Бацькаўшчына», «Зямля», «Насцечка».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1859

Падпісана да друку 15.11.2019. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.